# Ніва

ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 21 (1160) ГОД XXIII БЕЛАСТОК 21 МАЯ 1978 г. ЦАНА 60 гр.





*Па роднай зямлі. Па дарозе ў Супрасль.* *Фота Я. Целушэцкага.*

## КАВАЛЕР КРЫЖА ЗАСЛУГІ

Сярод узнагароджаных ён стаяў на другім месцы. Яму, Яўгенію Марцінюку, селяніну з вёскі Кульгі ў Сямяціцкай гміне, уручылі Залаты Крыж Заслугі.

Мне захацелася крыху бліжэй пазнаёміцца з кавалерам Залатога Крыжа Заслугі. Вёска Кульгі знаходзіцца за Чартаевам, які праславіўся на ўсю Беласточчыну сваёй сельскагаспадарчай школай. Гэта сем кіламетраў за Сямяцічамі, у бок на Цехановец. 38 гаспадарак раскінулася паабапал дарогі. Будынкі парадачныя, трывалыя, разлічаныя на многія дзесяткі гадоў добрага гаспадарання.

На панадворку ў Яўгенія Марцінюка перш за ўсё прыкоўвае позірк вялікая абора.

— Гэты кароўнік, — паясняе гаспадар, — пабудаваў я паводле тыповага праекта: 11 метраў шырыні і 23 метры даўжыні, 26 гадаўляных адсекаў.

Малочная і мясная жывёла — гэта цяпер яго спецыялізацыя. Раней прабаваў ён гадаваць свіней. Трымаў уласных свінаматак і кожны год прадаваў нейкіх 50 штук кормнікаў. Раслі яны добра і папаўнялі сялянскае конта ў СОПе.

— Чаму тады вы, — пытаю, — перакінуліся на гадоўлю кароў?

— Бо пачаліся цяжкасці ў пастаўцы прамысловых кармоў, а ў маёй гаспадарцы больш спрыяльныя ўмовы для нарыхтоўкі кармавых запасаў для кароў.

У Яўгенія Марцінюка 13-гектаровая гаспадарка. Уся яна цяпер прыстасавана да гадоўлі кароў. Гаспадар кожны год закладае вялікі сілас, каб хапіла яго амаль на цэлую зіму.

— Стараюся, каб нічога ў маёй гаспадарцы не змарнаваць, — кажа ён. — Часта, для прыкладу, вымярзала ў мяне збожжа, асабліва там, дзе нізка, пры лугах. Каб пазбыцца гэтай бяды, я пасеяў там траву. Цяпер маю сена, якое з'яўляецца самым выдатным кармом, калі яго дбайна падрыхтаваць. У свaёй гаспадарцы сырую траву стараюся я або высушыць на парашок, або зрабіць з яе сілас.

Расказваюць у вёсцы, як Яўгеній Марцінюк арганізаваў сельскагаспадарчы гурток. Было гэта яшчэ ў 1962 годзе. Хадзіў ад хаты да хаты, паясняў і заахвочваў. Запісалася 18 гаспадароў, якраз палавіна вёскі. Купілі першы трактар, пасля другі. Былі гэта пачаткі механізацыі нашых вёсак. Асцярожна, здалёк, прыглядаліся суседзі на тое, што чаўпе Яўгеній Марцінюк. А ён так пакіраваў працай свайго сельскагаспадарчага гуртка, што стаў ён адзін з лепшых у ваяводстве.

Цяпер многія жыхары вёскі пастараліся ўжо набыць уласныя трактары. Мае яго таксама і Яўгеній Марцінюк. Гэты трактар асабліва ахвотна даглядае яго старэйшы сын, які закончыў школу механізацыі сельскай гаспадаркі і цяпер працуе разам з бацькам.

— Не хацеў ісці ў горад, — кажа маці, якая прыйшла падаіць кароў. — І малодшы таксама, — дадае яна, — ця-

(Працяг на стар. 4)

## ЗАЧАРАВАЛА РОДНАЕ СЛОВА

...явілася ...істычных навук Яна Петручука яшчэ ў часе яго вучобы на паланістыцы ў Вроцлаўскім універсітэце. Там пад кіраўніцтвам праф. др С. Распонда ён напісаў і абараніў магістэрскую працу аб фанетыцы гаворкі роднага сяла **Курашава.** Калі ў большасці абсальвентаў вышэйшых школ на магістэрскай працы заканчваецца зацікаўленне якойсьці справай, то ў Я. Петручука наадварот — яна была ўступам да далейшых навуковых даследаванняў. У 1963 г. ён пачаў працаваць настаўнікам польскай мовы ў **Гайнаўскім беларускім ліцэі.** Наведваючы сваіх бацькоў і родных у Курашаве ён не-не ды і зноў браў у рукі кавалачак паперы, каб занатаваць толькі што пачутае цікавае слова, прыказку, прымаўку ці іншае арыгінальнае выказванне. Рабіў ён гэта без акрэсленай патрэбы, проста з замілавання да роднага. Недзе ў 1968 г. у яго наладзілася супрацоўніцтва з доц. др Э. Смулковай з Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта і тады пачалося ўжо сістэматычнае вывучэнне моўнага багацця родных ваколіц.

— Слоўніцтва гаворкі Гайнаўшчыны вельмі цікавае перш за ўсё таму, што тут наступіла сутыкненне некалькіх суседніх моваў: беларускай, украінскай, польскай, літоўскай, — заўважае Я. Петручук. — Гэтая гаворка — надта ўдзячны матэрыял да навуковых даследаванняў над паўстаннем і жыццём пераходных гаворак. Але праца над слоўніцтвам вельмі цяжкая, бо над кожным словам неабходна доўга задумвацца, шукаць у гаворцы шэрагу адпаведных выказванняў з ім, розных устойлівых зваротаў. Гэта сапраўднае выбіранне макавых зярнят з гары пяску. Тым больш, што вывучэннем тутэйшага слоўніцтва ніхто дагэтуль не займаўся, мая праца з'яўляецца першай спробай у гэтай дзялянцы.

Але сабраны матэрыял — гэта ўсяго толькі сыравіна, якую неабходна ўсебакова прааналізаваць, апрацаваць з прымяненнем самых навейшых дасягненняў мовазнаўства. Такіх матэрыялаў не многа знаходзіцца ў бібліятэках Гайнаўкі, Беластока, і Я. Петручуку даводзілася ўвесь свой вольны час ад працы ў школе праводзіць у бібліятэках Варшавы. З вялікай удзячнасцю, між іншым, ён прыгадвае др. М. Кандрацюка з Польскай акадэміі навук, які яму дапамагаў знайсці патрэбныя выданні, прысылаў іх у Гайнаўку. Але ўсё гэта прыходзілася нялёгка. Тым больш, што ў тым жа часе яго жонка Зінаіда, таксама настаўніца Гайнаўскага бела-

(Працяг на стар. 4)




*Трыо з Тапаркоў: Клаўдзія Бакун, Вера Роля і Вера Баравік.* *Фота М. Шаховіча.*

### ГУТАРКА ДЗЯДЗЬКІ МАКСІМА

## СВІННІ І БЮРАКРАТЫ

Быццам смурод ходзіць за мной назойлівая думка: якая розніца між свіннёю і бюракратам?

Як не круціў я мазгамі, а ўсё ж выходзіла мне на тое, што розніца між імі зусім невялікая: свіння з'яўляецца свіннёй ад роду, а бюракрат пераўтвараецца ў свінню, калі пасадзяць яго за акенцам у канторы. І таму лепш мець справу са свіннёй, чымсьці з бюракратам, бо свінню, калі яна ўжо зусім сасвініцца, у найгоршым выпадку можна яшчэ закалоць і сала будзе, ды штоколеч на каўбасы астанецца.

А якая карысць ад бюракрата? Калі яго крыху мацней прыціснуць, дык ад жаху адзін смурод застанецца, ад якога толькі блохі паздыхаюць, больш нічога. Але дзеля гэтага лепшы парашок, ці іншая пырхаўка, якія прадаюць у хімічных магазінах. Каб яшчэ гэтым парашком можна было вытруціць усіх бюракратаў, бо яны, быццам галодная стонка, лезуць усюды, дзе іх не просяць і не спадзяюцца.

Перасольваю? Магчыма. Але не так ужо моцна, столькі, каб смак пачуць, каб горыч, у якой маё сэрца купаецца, пасаладзіць крыху. Бо падумайце, што чаўпецца, што расказваюць мне людзі, з чым звяртаюцца да мяне, як да

(Працяг на стар. 4)



*Ян Петручук.* *Фота М. Гайдука*

80 ГА,

Больш чым у палавіны з 575 аследаваных індзейцаў канадскай правінцыі Квебек у крыві выяўлена небяспечная для жыцця колькасць ртуці. Трывожныя паведамленні паступілі і з дзвюх іншых правінцый краіны — Антарыю і Манітоба. Гэтыя даныя прыведзены ў дакладзе, падрыхтаваным федэральным урадам Канады.

Рэкі і азёры краіны забруджаны ртуццю прамысловых адходаў. Рыба — асноўны прадукт харчавання мясцовага насельніцтва — становіцца небяспечнай для здароўя чалавека. Павышаная колькасць ртуці ў чалавечым арганізме паступова прыводзіць да невылечнай „хваробы Мінамата“, сімптомы якой упершыню былі выяўлены ў Японіі. Захворванне паражае мозг і нервовую сістэму, выклікаючы слепату. Японскія спецыялісты, якія пабывалі ў Канадзе, лічаць, што, нават калі неадкладна і поўнасцю спыніць скідванне адходаў, якія ўтрымліваюць ртуць, з прадпрыемстваў у Квебеку, спатрэбіцца 80 гадоў для таго, каб рэкі правінцыі зноў сталі чыстыя.

### БЕСПРАЦОЎНЫ ГЕНІЙ

Эльмару Эдэру з Заходняй Германіі было толькі 12 гадоў, калі яго, як выключэнне, дапусцілі да заняткаў у Мюнхенскім універсітэце. Фенаменальныя здольнасці да матэматыкі дазволілі Эльмару паспяхова закончыць вучобу. Калі яму было дваццаць гадоў — абараніў дысертацыю.

Цяпер Эльмару Эдэру 21 год, яго па праву называюць матэматычным геніем. Але маладому генію, спецыялісту ў галіне матэматычнай логікі здорава не пашанцавала — ён застаўся без работы.

## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### ПА МАЛЮНКУ СТАРАЖЫТНЫХ МАЙСТРОЎ

Дываны, якія раней ткалі ў многіх мястэчках Беларусі, пачалі выпускаць у Маладзечна і Салігорску. Малюнкі і тэхналогію іх вырабу аднавілі па знойдзеных у архівах эскізах мастакі і тэхнолагі Віцебскага дыванонага камбіната. Хутка такія дываны будуць ткаць у Пухавічах, Чэрвені, Стаўбцах і іншых гарадах.

### МАЛАКО... ДЛЯ КАРОЎ

Уступіў у строй цэх замяняльніка натуральнага малака на ваўкавыскім малочна-кансервавым камбінаце. Сыравінай для атрымання прадукцыі служыць абястлушчанае малако. У яго дадаюцца вітаміны, гідратлушчы, фасфарыты. Прадукт гэты прызначаны для маладняка буйнай рагатай жывёлы.

Новы цэх — буйнейшы ў рэспубліцы. Ён будзе выпрабляць 1 400 тон малочнага парашку ў год.

### 28 V 1978 — АКЦЫЯ ЗБІРАННЯ МАКУЛАТУРЫ

28 V 1978 РСВ „Прэса-Кніжка-Рух“ арганізуе агульнакраёвы грамадскі збор макулатуры. У гэты дзень на тэрыторыі ўсёй краіны, пачынаючы ад 7 гадзіны раніцы ўсе кіёскі і крамы РСВ „Прэса-Кніжка-Рух“ у гарадах і вызначаныя вясковыя кіёскі, а таксама вясковыя клубы прэсы і кніжкі будуць прымаць ад насельніцтва макулатуру. Грамадскі сэнс гэтага збору заключаецца ў тым, што макулатура будзе прымацца ад насельніцтва — **неадплатна**, а ўвесь даход з продажу сабранай макулатуры будзе перададзены на конта Пабудовы помніка-бальніцы „Цэнтр здароўя дзіцяці“ ў Варшаве.

Чытачы, падтрымайце гэту ініцыятыву!

### У ГЭТЫМ ТЫДНІ

**165 гадоў назад**

22 V 1813 нар. Вільгельм Вагнер, нямецкі кампазітар, дырыжор, музычны пісьменнік. Вялікі рэфарматар оперы. Поўнае зліццё слова, дзеяння і музыкі — адзіны шлях да стварэння „мастацтва будучыні“.

**95 гадоў назад**

23 V 1883 пам. Цыпрыян Норвід, польскі пісьменнік. Не прызнаны пры жыцці, стаў шырока вядомы ў 20 ст.

**45 гадоў назад**

25 V 1933 адкрыўся ў Мінску Дзяржаўны ордэна Леніна акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балету БССР.



**Паштоўка з Беларусі.** У пасёлку Любча Навагрудскага раёна новая, сучасная сярэдняя школа на 800 месц. Тут абсталяваны кабінеты для вывучэння фізікі, хіміі, біялогіі і іншых прадметаў, спартыўныя залы, сталовая і інш. На здымку: На ўроку фізікі. Фота В.Косціна.

## Пытанні па граматыцы на вусны экзамен для кандыдатаў на беларускую філалогію Варшаўскага Універсітэта

1. Назавіце важнейшыя рысы беларускай мовы, якія адрозніваюць яе ад польскай мовы.
2. Назавіце важнейшыя рысы беларускай мовы, якія адрозніваюць яе ад рускай мовы.
3. Пакажыце на прыкладах, чым адрозніваецца вядомая вам гаворка ад беларускай літаратурнай мовы.
4. Што такое *дзеканне* і *цеканне?* Выясніце на прыкладах.
5. Што такое *аканне?* Выясніце на прыкладах.
6. Якія зычныя могуць падаўжацца ў беларускай мове? Дайце прыклады.
7. Дайце прыклады на падаўжэнне і падваенне зычных.
8. Прыстаўныя зычныя ў беларускай мове.
9. Прыстаўныя галосныя ў беларускай мове.
10. Правілы пераходу *у, л, в,* у *ў* (нескладовае).
11. На якія групы падзяляюцца ніжэй дадзеныя словы з пункту гледжання іх словаўтварэння: *вада, пажарнік, адгалосак, дармаед, тварэц.*
12. Падай і прааналізуй прыклады слоў, якія словаўтваральна падзяляюцца, і слоў, якія словаўтваральна не падзяляюцца.
13. Якія элементы можам вылучыць у вытворных словах? Для адказа можаце выкарыстаць наступныя прыклады: *коннік, ад'ехаць, заклік, чарнявы.*
14. Галоўныя спосабы ўтварэння новых слоў у беларускай мове.
15. Ад якіх часцін мовы ўтвараюцца назоўнікі? Зрабіце аналіз слоў тыпу: *сталярня, цыганка, старасць, крыкун, рыбалоў, лесастэп, пагроза* з пункту погляду іх утварэння.
16. Ад якіх часцін мовы ўтвараюцца прыметнікі? Прааналізуйце з гэтага пункту погляду наступныя прыклады: *гарадскі, зеленаваты, спачувальны, дарэмны, малакультурны.*
17. Ад якіх часцін мовы ўтвараюцца дзеясловы? Прааналізуйце з гэтага пункту погляду прыклады: *друкаваць, мілаваць, чарнець, занесці, зраніць.*
18. Што такое корань слова, прыстаўка, суфікс? Выдзеліце гэтыя часткі ў словах: *давезці, дачасны, водбліск, званок, буфетчык.*
19. Прааналізуйце спосабы ўтварэння ступеней параўнання прыметнікаў і прыслоўяў.
20. Закласіфікуйце да адпаведных часцін мовы словы ніжэй дадзенага сказа: *Дзядзька-апякун хацеў, каб яго пляменнік быў гаспадаром.*
21. Закласіфікуйце да адпаведных часцін мовы словы ніжэй дадзенага сказа: *Аўдоцця, прыйшоўшы на абед, дастала чыгункі з печы і, убачыўшы цэлую грамаду, што паявілася ў хаце, разгубілася.*
22. Вызначыць часціны мовы ў дадзеным ніжэй сказе: *Незнаёмы зняў пілотку, адкрыўшы даўно не стрыжаную, ускалмачаную шапку валасоў.*
23. Да якой часціны мовы належыць слова *насустрач* у наступных сказах: *Тут насустрач позірк воўчы вызірае; З хаты насустрач яму ішла Насця.* Падайце іншыя яшчэ прыклады прыналежнасці слоў да розных часцін мовы.
24. Якія канчаткі ўжываюцца ў родным склоне адзіночнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду? Ад чаго залежыць выбар адпаведнага канчатка?
25. Якія канчаткі ўжываюцца ў месным склоне адзіночнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду? Ад чаго залежыць выбар адпаведнага канчатка?
26. Якія дзеясловы належаць да першага, а якія да другога спражэння? Дайце прыклады і ўтварыце ад іх загадны лад і дзеепрыметнікі.
27. Ад дзеясловаў *пісаць, ісці* ўтварыце ўсе магчымыя формы.
28. Зрабіце сінтаксічны разбор сказа: *Гром глуха грукоча пад небам высокім.*
29. Зрабіце сінтаксічны разбор сказа: *Скрозь галінкі выносных хвоек прабіваліся цёплыя косы вераснёўскага сонца.*
30. Зрабіце сінтаксічны разбор сказа: *Не столькі было тут той работы, колькі смеху, жартаў, песень і ўсяго таго, што трэба маладосці.*
31. Падайце прыклады дзеяслоўнага і іменнага выказніка.
32. У дадзеных ніжэй сказах выдзеліце дзейнікі і скажыце, якімі часцінамі мовы яны выражаны.

*Шчасліваю доляй жыццё расцвіло.*
*Штосьці блізкае і роднае ёсць у майскім хараstве.*
*На ўзлеску стаяць вартавыя і ўважліва аглядаюць наваколле.*
*Адзін з сошкай, а сямёра з ложкай.*
*Белавежская пушча — багаты музей прыроды.*
*Дзеці са мной збіралі ў лесе ягады.*
*На двары стаяла трое незнаёмых.*
*Грамада палешукоў запоўніла школу.*
*Чалавек пад дзесяць сядзела вакол вогнішча.*

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ“**

**Шанц для адважных • А памяць жыве • Пытанні па літаратуры на вусны экзамен для кандыдатаў на Беларускую філалогію Варшаўскага універсітэта • Свет (Надзеі Артымовіч), маляваны смуткам • Як Рыгора пакаралі • Фота-рэтра (новая рубрыка) • Весткі з Гарадзіска, Гайнаўкі, Рыбалаў, Нурца, Дубіч Царкоўных, Белавежы, Тафілаўцаў, Навасадаў, Пашкоўшчыны, Бабікаў, Нараўкі • Кастусь і катлета • Песня** „Kominiarz Johny”.

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota 20 V** — 6.00 TTR. Upr. rośl. 6.30 Mech. rol. 9.00 Dla kl. VIII Nauka o czł. 10.00 Dla najmłodszych. 12.45 TTR. Upr. rośl. 13.25 Hod. zwierz. 13.55 Red. Szk. zap. 14.10 Pr. dnia. 14.15 Radzimy rol. 14.25 Dziennik. 14.35 Obiektyw. 14.55 Pr. dla najmłod. 15.25 Spotkania na antenie. 16.25 Latarnia czarnoksięska. 16.55 Wielki Gatsby — ameryk. dramat obycz. 18.30 Formuła szczęścia — teletur. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Łowca nagród — western ameryk. 21.55 Sport. 22.25 Dziennik. 22.40 Sport. 23.00 Zawód — Morderca — wł.-RFN-owski dramat sens. 0.30 Sport.

**Niedziela 21 V** — 6.25 TTR. Upr. rośl. 6.55 Hod. zwierz. 7.25 Nasze spotkania. 7.45 Now. w domu i zagr. 8.10 Alarm przeciwpoż. 8.20 Sport. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.25 Antena. 10.55 U zarania dziejów — film dok. 11.50 Dziennik. 12.05 Rolnicze rozmowy. 12.40 Zawód Artysta: Kaja Danczowska. 13.45 Z kamerą wśród zwierz. 14.20 Piórkiem i węglem. 14.50 Los. Dużego Lot. 15.00 Klub sześciu kont. 16.15 Sport — IX etap WP. 17.15 Tele-echo. 18.15 Studio „Mundial”. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.30 Ziemia obiecana — cz. I filmu A. Wajdy. 21.30 Teatr Komedii: J. J. Bricaire i M. Lasaygue: Słodkie szaleństwo. 22.15 Sport.

**Poniedziałek 22 V** — 11.45 RTSS. Fiz. 13.25 TTR. Hod. zwierz. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 NURT: Naucz. pocz. 16.00 Dziennik. 16.10 Sport — X etap WP. 17.00 Zwierzyniec. 17.45 Dom i my. 18.00 Nasi kochani bliźni — odc. 1 ser. obycz. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr TV: Z. Skowroński „Głos”. 21.45 Camerata. 22.15 Sport. 22.30 Dziennik.

**Wtorek 23 V** — 6.00 RTSS. Fiz. 6.30 TTR. Hod. zwierz. 9.00 Dla kl. I lic. J. pol. 10.00 Dla kl. I—III Czerw., żółte, ziel. 12.45 RTSS. Chem. 13.25 Biol. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 Dziennik. 15.40 Obiektyw. 16.00 Sport — XI etap WP. 16.50 Studio Mł. 17.25 Sygnały filmowe. 17.55 Interstudio. 18.25 Człowiek i przyroda — odc. filmu dok. 18.50 Radzimy rol. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Saga rodu Palliserów — odc. XIX. 21.30 Przed Opolem. 22.00 Świadkowie. 22.20 Przed Opolem. 22.40 Sport. 23.00 Teatr małych form: M. Gorki „Czełkasz”.

**Środa 24 V** — 6.00 RTSS. Chem. 6.30 Biol. 9.00 Dla kl. VI Fiz. 11.05 Dla kl. VIII Fiz. 12.00 Dla kl. VIII Chem. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 NURT. Naucz. pocz. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Los. Małego Lot. 16.45 Kółko i krzyżyk. 17.00 W naszych sercach tętnią bębny. 17.15 Sport. — WP ostatni etap. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Filmy z Brigitte Bardot. 22.15 Dziennik. 22.20 Sport — kronika WP. 23.20 Godzina muzyki.

**Czwartek 25 V** — 8.55 Pr. dnia. 9.00 Pr. film. 10.00 Helena trojańska — film kostiumowy amer.-wł. 11.50 Rzecz muzyczna. 12.50 Z kamerą wśród zwierz. 13.20 Nie ma jak u mamy. 13.40 Rodowody. 14.05 Piórkiem i węglem. 14.30 Klub sześciu kont. 15.20 Ekran z bratkiem. 16.50 Szuflada — pr. publ. 17.10 W starym kinie: Tarzan znajduje syna. 18.30 Plebiscyt Studia Gama. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr sensacji: C. Arley „Wielki kawałek tortu w pułapce na myszy”. 21.35 Pegaz. 22.20 Pr. rozr. 23.10. Sport.

**Piątek 26 V** — 9.00 Dla kl. V Geogr. 10.00 Dla kl. VI Geogr. 11.05 Dla kl. II Międzynar. spotk. 12.45 RTSS. J. pol. 13.25 Mat. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 NURT: Ped. 16.00 Dziennik. 16.15 Obiektyw. 16.40 Dla dzieci. 17.10 Spotkania z medycyną. 17.35 Kryptonim „Stella” — odc. ostatni dramatu woj. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Film TV na świecie: Na dole i niedole — prod. amer. 21.45 Jubileuszowy koncert H. Szerynga. 22.35 Dziennik. 22.50 Sport.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 19 V** — 8.25 Film fab. 9.30 Koncert. 18.50 Film fab.

**Sobota 20 V** — 7.55 Film fab. 13.15 Film fab. 16.00 W świecie zwierz. 18.05 Film fab. 20.55 Mistrz. świata w boksie. Finał.

**Niedziela 21 V** — 10.00 Film fab. 13.00 Spektakl. 15.45 Panorama międzynar. 17.15 Film anim. 17.30 Klub film. 18.30 Film fab.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

Беларуская радыёперадача: субота, 12.05 — 12.25 (UKF).

## КІНО

**Białowieża** Zakręt — pol. 23—24. Transamerican ekspress — USA 25—26. Cień zbrodni — buł. 27—28.

**Bielsk Podl.** Doktor Judym — pol. 22. Skrzydełko czy nóżka — fr. 23—24. Mecanica Nacional — mek. 25—26. Melodie białych nocy — radz. 27—28.

**Czeremcha** Alicja już tu nie mieszka — USA 23—24. Ostatni nabój — rum. 27—28.

**Czyże** Święto dzikich zwierząt — fr. Wniebowstąpienie — radz. 24—28.

**Dubicze Cerk.** Sam na sam — pol. Ostatni bal w Rożnowie — czes. 24—28.

**Gródek** Zakręt — pol. 27—28.

**Michałowo** Dzieje grzechu — pol. 22. Pani minister tańczy — pol. 23—24. W mroku nocy — USA 25—26. Powrót Robin Hooda — ang. 27—28.

**Mielnik** Śmierć na zakręcie — NRD 24. Fałszywy król — ang. 27—28.

**Milejczyce** Zamach w Sarajewie — jug. Przygody małpki Nuki. — radz. 24—28.

**Narewka** Skazany — pol. Wielki łup gangu Olsena — duń. 24—28.

**Orla** Pani Bovari — to ja — pol. Zaufanie — radz. 24—28.

**Rajsk** Młodość Adeli H. — fr. Po prostu żołnierz — radz. 24—28.

B.Z.Graf. Zam. nr 1098 7.600 egz. N-4

# Беларускія народныя балады

Зусім не будзе перабольшаннем заўважыць: калі кожная новая кніга шматтамовага зводнага выдання „Беларуская народная творчасць“, што на працягу некалькі год паслядоўна ажыццяўляе Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларускай ССР, бывае важным фактам у беларускай фалькларыстыцы, то выхад дзвюх кніг тома „Балады“*) напэўна з'яўляецца прыкметнай падзеяй у беларусазнаўстве наогул. Вынікае гэта з выключнай функцыі балады ў культуры розных народаў, у тым ліку і беларускага народа. Бо беларускія народныя балады, гэта значыць: *„ліра-эпічныя песні з напружаным драматычным сюжэтам, якія апавядаюць пра незвычайныя, трагічныя здарэнні ў асабістым, сямейным жыцці чалавека,.. ўзнімаюць маральна-этычныя праблемы: у цэнтры іх увагі злачынства і кара, вернасць і здрада, каханне і нянавісць і г.д,... даюць багаты матэрыял для вывучэння мінулага нашага народа, яго быту, яго псіхалогіі, уяўленняў пра справядлівасць і прыгажосць“*, — сцвярджае вядомы знаўца беларускай народнай балады маладая этнограф і фалькларыст, кандыдат навук Л. М. Салавей ва ўступным артыкуле да гэтага тома.

Дасюль гэтыя выдатныя народныя творы былі рассыпаны па самых разнастайных выданнях беларускага фальклору суседніх народаў, а таксама знаходзіліся неапублікаванымі ў рукапісах у размаітых архівах і фондах. Л. М. Салавей не толькі вельмі старанна і дбайна вылушчыла з гэтых крыніц усе балады, але і сама асабіста з'ездзіла і схадзіла ўздоўж і ўпапярок усю Беларусь, заглядаючы ў самыя адлеглыя яе куточкі і знаходзячы там гэтыя цудоўныя творы народнага мастацтва. І ў выніку гэтага на 1128 балад, змешчаных у абедзвюх кнігах, аж звыш 150 твораў, г.зн. кожны сёмы, паходзіць з яе ўласных запісаў! Як жа тут не захапляцца працавітасцю, настойлівасцю і энергіяй фалькларысткі, якая, дарэчы, вельмі абяцаюча зарэкамендавала сябе таксама навуковымі артыкуламі. Між іншым, у спамянутым уступным артыкуле „Беларускія народныя балады“ Л. М. Салавей дала манаграфічны агляд беларускай народнай балады, вычэрпваючую навуковую характарыстыку гэтага віда народнай паэзіі, акрэсліла яе важнае месца ў агульным арэале фальклору беларускага народа, паказала на сувязі беларускай народнай балады з творчасцю іншых народаў. Важкі ўклад у даследаванне музычнага фальклору нашага народа прадстаўляе таксама змешчаны ў гэтым выданні артыкул „Напевы балад“ пяра беларускага музыказнаўцы Т. А. Дубковай.

Нас асабліва цешыць тое, што ўкладальніца тома не абмінула народнай творчасці беларусаў Беласточчыны. Здабыла яна з розных, часам мала каму вядомых крыніц, напрыклад, з П. Гільтэбранта „Сборник памятников народного творчества в Северо-Западном крае“ (Вільня 1866) ці архіва польскага кампазітара Т. Шалігоўскага, у суме звыш дваццаці балад. Найбольш сярод іх паходзіць з запісаў М. Федароўскага і Р. Шырмы, але знайшліся таксама творы, запісаныя студэнтамі беларускай філалогіі Завочнай настаўніцкай студыі ў Беластоку. Варта прыгадаць, што ў томе змешчаны і балады, упершыню апублікаваныя ў нашай „Ніве“ ў акенцы „Фальклор“. Можна толькі пашкадаваць, што дагэтуль не дачакаліся ўваходу ў выданні беларускага фальклору, а тым самым астаюцца недаступнымі, багатыя запісы самых разнастайных твораў беларускага фальклору Беласточчыны, што сабралі студэнты Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта ў часе сваіх навуковых экспедыцый і пішучы магістэрскія працы.

Нельга не згадзіцца з заўвагай Л. М. Салавей, што *„высокія эстэтычныя і гістарычныя вартасці беларускіх народных балад, па-новаму асэнсаваныя прафесійнай літаратурай і мастацтвам, будуць садзейнічаць развіццю нацыянальнай культуры“*. І якраз дзякуючы выхаду ў свет гэтага багацейшага збору „Балады“, дадайма, паявіўся новы апладатвараючы імпульс да творчых ініцыятываў.

**Мікалай Гайдук**

*) **Балады.** *У дзвюх кнігах, кніга I, Мінск 1977, кніга II, Мінск 1978, Укладанне, сістэматызацыя, уступны артыкул і каментарыі* **Л. М. Салавей,** *уступны артыкул, укладанне і сістэматызацыя напеваў* **Т. А. Дубковай.**

## Наша галерэя



*С. Рыбі — „Сапраўдны канец вялікага Дон Кіхота“.*
*Фота Р. Сянько.*

**МУЗЕЙ? ГАЛЕРЭЯ?**

**Фота-рэтра**

Дзень дзеяча культуры вырашылі мы (аднадушна) сустрэць новым культурным (а як жа!) пачынам. Разнагалосіца паўстала, калі пачалі канкрэтызаваць намер.

Прапанова выйсці гуртам на парадкаванне сялібнага панадворка ГП БГКТ была адкінута з сяброўскіх меркаванняў (знойдзецца зычлівец і прыпіша нам зусім дурную справу).

— Давайце лепш прыдумаем нейкую культурную рубрыку, — сказаў адказны за культуру.

— У нас яны ўсе культурныя, — адказаў адказны за гаспадарку.

Ніхто не пярэчыў, што яго рубрыка „не культурная“, аднак канфлікт павіс у паветры.

Галоўны зрабіў адводны манеўр:

— Мо выдумаем нешта калектыўнае, нейкі новы „Парнасік“?

Сваяк, Бізун і Астрон зацягнулі ў адзін тон:

— Не хо-чам но-вых ру-брык! Бооольш месца нааам!

Пачалося звычайнае тузанне за месца на старонках. У разгар спрэчак, якія ўжо пераўтвараліся ў сварку, уваходзіць знаёмы майстар фатаграфіі.

— Даражэнькія, сябры мілыя, калі ўрэшце пачнеце друкаваць мае здымкі? — пытае (сам вясёлы: пачаў абнімацца, іншы лаяўся б!).

Спрачальнікі аселі і ўтаропіліся ў галоўнага.

Здымкі, якія адстайваў майстар, старыя. І не толькі таму, што ляжаць у нас гады два, але і па зместу. Такія здымкі друкуюць пераважна пры нагодзе чагосьці. Відаць такой нагоды не было, калі ляжаць толькі. Аднак яны ў нас заўсёды напагатове і ў любы час могуць стаць на службу. Так было і цяпер. Майстар фатаграфіі, разладаваўшы напружанае становішча, заваяваў галоўнага.

— Збавіцель наш, — сказаў галоўны, — здымкі твае пачнем публікаваць ад наступнага нумара, — і дэмакратычна вырашыў: — Адкрываем рубрыку „Фота-рэтра“.

Вось і ўся перадгісторыя нашай новай рубрыкі. Гісторыю яе будзем рабіць супольна. Гэта значыць, запрашаем і вас, чытачы, у вір падзей. Адкрыйце свае хатнія архівы людзям! Дасылайце ў рэдакцыю фотаматэрыялы, якія, на вашу думку, варты абнародавання. Можа з нашай (і вашай) ініцыятывы народзіцца новы музей? Хай не музей (ну яго!), мы згодны і на галерэю.

**(жю)**

**Новыя вершы**

## АЕР

*Знаходжу ўраз*
*На карце Полацк.*
*Вітаю, SAS,¹)*
*Твой росчырк-поласк!*

*Хаця б у час*
*Знайсці прыступак —*
*Не збіць абцас,*
*На хмарах тупнуць!*

*Навошта прах*
*Аэрафлоту.*

*...Увагі праг*
*Аер у слоту.*

*Я слаў сяннік*
*З аерным зместам,*
*Змрок слаўся, нік*
*З тугой сумесна.*

*У цішыні*
*Той міг усё мог.*
*Аер, шумі*
*Да новых сёмух.*

*Зямля — як под.*
*Хлеб — на аеры.*
*Аэрафлот,*
*Ці маеш нервы?*

*Будзе ў касцях*
*Вясёла стома.*
*Нага ў гасцях,*
*А вочы дома!..*

**Рыгор Барадулін**

¹) *SAS — Скандынаўская авіякампанія.*

*ДАРОЖНЫЯ ПАРТРЭТЫ*




*Аліна Канопля, вучаніца VIII б класа пачатковай школы ў Орлі, вельмі любіць беларускую мову.*
*Фота М. Шаховіча.*

**З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ. ЛЯЧЭННЕ.**

## ЗАКАНЧЭННЕ

На кожны найменшы боль, на кожнае недамаганне народная медыцына мела адпаведны спосаб. Некаторыя з іх былі выпрацаванымі формуламі, іншыя папярэджвалі, як і што трэба рабіць, каб не дапусціць да хваробы. Народнае лячэнне, апрача сваёй дапаможніцкай ролі, было таксама пазнаваннем анатоміі чалавека. Праведзены намі агляд народнага лячэння, зразумела, далёка няпоўны. Не дробіліся мы і не затрымоўваліся па чарзе на паасобных частках чалавечага арганізма, а хацелі паказаць самае істотнае, самае галоўнае. Прыкладна, не затрымаліся на болю галавы, лунатызме, балячках, бяссонніцы. Па-першае, стала гэта так шырока вядомым, што людзі з цягам часу перасталі заўважаць гэта і формулы лячэння амаль поўнасцю затраціліся, а, па-другое, нельга было тут знайсці нейкі канкрэтны падзел на хваробы і выразнае адбіццё іх у народным лячэнні. Ва ўсім сабраным на вышэй спамянутую тэму матэрыяле, назіраецца вялікая агульнасць. Нават больш, бо сабраныя тэксты з'яўляюцца можа не на столькі спосабам лячэння, наколькі папярэджваннем перад магчымасцю захворвання. Не гавораць яны, як пазбыцца хваробы, а як да яе не дапусціць. Прыкладна, каб не балела галава, дык нельга вычасаныя з яе валасы кідаць у агонь ці выкідаць на панадворак, адкуль маглі б забраць іх птушкі на гняздо. Калі ў другім выпадку ёсць нейкая логіка, дык у першым якраз наадварот. Агонь жа быў той ачышчаючай сілай, да якой часта звярталіся пры лячэнні розных хвароб.

Таксама і з іншымі. Каб чалавек не быў лунатыкам, дык нельга было пакідаць на ноч на двары вымытую бялізну. Таксама цяжарная жанчына павінна была класціся спаць у найцямнейшым кутку, каб не свяціў на яе месяц, бо ў іншым выпадку народжанае дзіцё будзе лунатыкам. Падобная справа з паяўленнем балячак. Нельга было сядаць на тую лаву, на якой ляжаў толькі што выняты з печы хлеб.

Канчаючы наш агляд народнага лячэння, варта яшчэ сказаць пра некаторыя спосабы, якія з увагі на вузкасць свайго разбудавання, не выплылі раней. Прыкладна, боль рукі, разрастаючыеся косці ног ці кровацячэнне. Пры болю рукі не паказана дакладна, пра які боль ідзе гутарка і дзе крыніца гэтага, але можам здагадвацца, што найчасцей мелі на думцы перапрацаванне. Каб пазбавіцца гэтага, трэба было некалькі разоў перад усходам сонца прыціскаць хворую руку дзвярыма.

Частым выпадкам было разрастанне касцей ног, што перашкаджала хадзіць. Каб спыніць гэта, трэба было адшукаць на полі нейкую косць, выцерці ёю хворыя ногі і закапаць на полі суседняй вёскі, гэта значыць за мяжой, якая аддзяляла поле адной вёскі ад другой. Гэта тое самае, што было пры магіі, калі пазбываліся нейкай бяды коштам іншага чалавека. Доказам гэтага можа быць пераношванне мышэй.

Пры затамоўванні кровацячэння захаваўся яшчэ таксама і славесны тэкст, у якім гаворыцца:

*Стуй, крэв, в ране,*
*Як стоі Хрыстус на Ёрдане!*
*Амэн, амэн, амэн...*

У той час прыкладалі да раны, робячы знак крыжа, свянцоны нож.

Падсумоўваючы сказанае на тэму народнага лячэння, трэба сцвердзіць, што галоўнымі спосабамі дзейнасці пры пазбыцці хваробы былі: закопванне, спальванне, пераношванне, адстрашванне, завязванне, здушванне. Пры гэтым вялікую ролю адыгрывалі жэсты і міміка, якія заўсёды спадарожнічалі формулам славеснага тэксту.

**Ян Леанчук, Міхась Шаховіч**

(Працяг са стар. 1)

# СВІННІ І БЮРАКРАТЫ

раднага, а я зусім бязрадны, толькі рукі разводжу.

Было гэта яшчэ зімой, але і цяпер справа актуальная. Малады селянін, гадоўца свінаматак і парасят паехаў у ГС за вугалем. Рэч нібы звычайная, бо хату трэба абаграваць і страву варыць і сабе, і жывіне. Гэта справа зусім ясная і між намі, мужчынамі, пасняць не трэба.

Зайшоў гэты селянін у кантору, дзе вугаль выпісваюць, ветліва пастаяў паўгадзіны часу ў чарзе, і тады чарнявая паненка запытала яго:

— А квітанцыю, што здалі вы свіней, маеце?

— Не маю, бо не здаваў, я парасят гадую, — адказаў селянін.

— Мяне не цікавіць, што вы гадуеце, — кажа паненка. — Мяне цікавіць квітанцыя на здачу свіней. Вугалю вам не выпішу.

— Чаму? — упіраўся селянін.

— Бо вугаль толькі для тых, хто жывец здае, — паясніла паненка і загадала, каб не перашкаджаць ёй у працы.

— Я на скаргу да начальніка пайду, — адгрызся селянін.

— Вось адважны знайшоўся! — засмяялася паненка, міргаючы вокам да сваёй сяброўкі. — Можа вам дарогу паказаць, каб не заблудзілі...

Начальнік аказаўся чалавекам спагадлівым, цярпліва выслухаў селяніна, хаця безупынку званілі да яго розныя ваяводскія начальнікі і дырэктары.

— Ну так, вядома, — пацяшаў ён селяніна, — вам належыцца вугаль на гэтых парасят.

З пісулькай ад начальніка вярнуўся селянін у ГСаўскую кантору. Паненка прачытала запіску, паглядзела на штамп з дзяржаўным гербам і размашысты подпіс начальніка, ды спакойна заявіла:

— Калі начальнік гміны такі багаты, то хай дае вам вугаль, бо я вам не дам. У мяне свае начальнікі.

— І што ж мне цяпер рабіць? Парайце, дзядзьку Максіме, — просіць мяне гэты селянін. — Прадаў бы я гэтую мацёру, але шкада, бо запарошана. А без вугалю як жыць?

Не паспеў я забыць аб гэтым вугалі, а тут зноў да мяне людзі са свінскай справай. Праўда, у гэтым выпадку праблема крыху іншая, але свінства аднолькавае. Адзін з дырэктараў спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў ухітрыўся разводзіць спулдзельчую жывёлагадоўлю сялянскімі рукамі. Пападпісваў доўгатэрміновыя ўмовы на адкорм парасят. Сяляне ахвотна прысталі на такі дагавор, бо дырэктар абяцаў корм і дапамогу ў пакупцы парасят, а ў сялян, якія займаліся вырошчваннем экспартнай бульбы, многа аставалася яе пасля сарціроўкі і невядома было, што з ёю рабіць. Стаялі таксама свабодныя хлявы і клуні. Ахвотна тады прынялі яны на адкорм па 40-50 парасят. Кармілі, даглядалі, і неўзабаве парасяты сталі ўжо парсюкамі, або, як у нас кажуць, вырaслі з іх вархлякі, вагой у 40-60 кг кожны. За такога вархляка можна ўзяць нават і тры тысячы злотых, а калі ёсць іх 50, то ўжо цэлы капітал назбіраецца. Лічылі свае тысячы сяляне і рукі ад радасці зацiралі, да барышу рыхтаваліся...

Толькі гэты СКРаўскі дырэктар недзе прапаў і ў вёсцы болей не паказаўся. Знайшоўся адзін адважны, інжынер з вышэйшай адукацыяй, звоніць у СКР і адразу на дырэктара: ты сякі-такі, чаму сваіх вархлякаў не забіраеш?

Калі выліў ён усю сваю злосць, тады пачуў з другога боку тэлефоннай лініі: гэтага дырэктара, да якога вы звоніце, тут ужо няма, яго пагналі адсюль, а я нічога не ведаю аб вашых вархляках. У мяне няма тучарні, не маю дзе іх паставіць.

Сяляне спасылаліся на правамоцныя ўмовы, але і на гэта знайшоўся спосаб у бюракратаў. Неўзабаве кожны з сялян атрымаў пісульку, у якой можна было прачытаць, што „СКР развязвае кантрактацыйную ўмову № 18/77, падпісаную 11 чэрвеня 1977 года".

Сялянам прыйшлося развозіць сваіх парасят па кірмашах. Да гэтага часу з іх выраслі ўжо стакілаграмовыя кормнікі.

Ну і як тут не думаць пра свіней і бюракратаў?..

**Максім Нурэцкі**

(Працяг са стар. 1)

# ЗАЧАРАВАЛА РОДНАЕ СЛОВА

рускага ліцэя, вучылася завочна на гістарычным факультэце Варшаўскага універсітэта. Двое маленькіх дзяцей і вельмі дрэнная кватэра — дапаўнялі чару цяжкасцей. І не дзіва, што прыходзілі надта ж крытычныя моманты, калі Я. Петручука ахоплівалі сумненні, ці мае сэнс мучыць самога сябе, укладваць столькі працы, самаахвяравання. Але ён гартаў дзесяткі сшыткаў сваіх запісаў, пераглядаў аграмадную, у некалькі тысяч картак, картатэку сабраных выказванняў, учытваўся ў гэтыя знаёмыя з маленства, умілаваныя, родныя словы і... зноў браўся за працу. Дзесяць год гэтых неймаверных намаганняў прынеслі прыгожы плён: вясной бягучага года пад навуковым кіраўніцтвам доц. др. М. Лэсёва ў Люблінскім універсітэце імя М. Кюры-Складоўскай Я. Петручук выдатна абараніў доктарскую дысертацыю **„Слоўнiцтва гаворкі вёскі Курашава каля Гайнаўкі".** Рэцэнзенты, вядомыя спецыялісты па ўсходнеславянскіх гаворках праф. др У. Курашкевіч з Познані і доц. др Э. Смулкова з Варшавы даюць гэтаму першаадкрывальніцкаму даследаванню высокую ацэнку.

— Мае даследаванні пацвярджаюць меркаванне гісторыка А. Тышкевіча, што паўднёва-ўсходнія абшары тэрыторыі паміж верхнім цячэннем Нарвы і сярэднім Буга насяляла этнічнае племя падляшан. Довадам гэтаму тое, што гаворка на гэтым абшары не складае нейкай сумесі розных элементаў, а з'яўляецца суцэльнай і аднароднай гаворкай з уласнай фаналагічнай, марфалагічнай і слоўнікавай сістэмай, — сцвярджае Я. Петручук. — Пры тым у ёй знаходзіцца многа лексічных элементаў супольных з гаворкамі Палесся. Гэта якраз пацвярджае здагадку гісторыка Е. Вішнеўскага, што тутэйшае насельніцтва бярэ свой першапачатковы радавод з поўдня, з Палесся. Цікава, што ў ёй захаваліся надта старажытныя элементы, якіх ужо няма ні ў беларускай, ні ва ўкраінскай літаратурных мовах. Знаходзяцца ў ёй таксама цюркскія элементы, якія трапілі сюды яшчэ ў старажытнарускі перыяд. Даследаванні дазволілі мне шырэй глянуць на праблемы мовы, здабытымі ведамі і назіраннямі я дзялюся з маімі вучнямі ў ліцэі. Паказваю на самых блізкіх ім прыкладах моўнае радство і культурныя сувязі славянскіх народаў, імкнуся прывіваць пашану і любоў да роднай мовы, да мясцовай гаворкі. Поўнасцю падтрымліваю ініцыятыву „Нівы" публікаваць вершы, апавяданні і іншыя творы, напісаныя на гаворцы, але гэта павінна быць народная, праўдзівая, жывая гаворка, а не стылізацыя. Заахвочваю выпускнікоў нашага ліцэя, якія вучацца ў вышэйшых школах, займацца вывучэннем нашых родных ваколіц.

І ўсё гэта не астаецца без вынікаў. Абсальвенты Гайнаўскага беларускага ліцэя, цяперашнія студэнты Люблінскага універсітэта: М. Самойлік рыхтуе магістэрскую працу аб слоўніцтве, звязаным з вясковым будаўніцтвам у гаворцы вёскі Янова каля Нарвы, а Я.



*Духавы аркестр Тэхнікума водных меліярацый у Беластоку. Дырыжор Э. Ламаско. Фота Я. Цялушэцкага.*

## КГВ у Ахрымаўцах на першым месцы

Нядаўна былі падведзены вынікі мінулагодняга конкурсу „Больш малака высокай якасці!" Удзельнічала ў ім 9 250 жанчын, членаў КГВ. У рамках яго вясковыя гаспадыні купілі на ўласнасць 472 электрадаілкі і 640 электрычных агароджаў для кватэрнага выпасу, а таксама пабялілі 9220 абораў у 632 вёсках і мадэрнізавалі 240 абораў.

Узнагароды атрымалі вядучыя калектывы, а перш за ўсё КГВ у Ахрымаўцах (гміна Кузніца), якое заняло першае месца, затым другое месца падзялілі КГВ у Керснове (гміна Бранск) і КГВ у Далістове (гміна Ясвілы), а трэцяе месца падзялілі КГВ у Багушах (гміна Саколка) і ў Гарасімавічах (гміна Дуброва).

У Ахрымаўцах жанчыны павялічылі колькасць кароў на 23 штукі і прызналі для далейшай гадоўлі больш 30 цялят.

У Керснове члены КГВ павялічылі пагалоўе быдла на 85 цялят, два разы ў год бялілі аборы і ўсе зрабілі запасы кішонак на зіму.

У індывідуальным спаборніцтве перамагла Ядвіга Радульская з Вылудкаў (гміна Карыцін). Вядзе яна спецыялістычную гаспадарку і гадуе 9 кароў, ад якіх прадае ў сярэднім 32 тысячы літраў малака ў год.

Другое месца заняла Ірэна Ярмошка з вёскі Снічаны (гміна Кузніца) і трэцяе — Галена Хілінская з Дабжынева. Затым на далейшых месцах знайшліся: Надзея Верамеюк з Аўгустова (гміна Бельск), Марыя Кавалевіч з Літвінавічаў (гміна Нурэц), Рэгіна Баркоўская з Юроўцаў (гміна Васількоў) і Уладзіслава Кшывіцкая са Стаднікаў (гміна Гродзіск).

**Я. Ц.**

(Працяг са стар. 1)

# КАВАЛЕР КРЫЖА ЗАСЛУГІ

пер ён у восьмым класе, але вельмі ахвотна ідзе ў поле і дапамагае нам ва ўсім, што толькі трэба, асабліва летам, у час канікулаў.

Яшчэ ў Марцінюкоў дзве дачкі. Яны аднак выйшлі ўжо з дому. Старэйшая замужам у той жа вёсцы, за гаспадаром, а другая, закончыўшы эканамічны тэхнікум, працуе цяпер у сямяціцкай спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў.

Гаспадыні апранулася ў белы халат і, узяўшы ў рукі даярку, пайшла да сваіх красуль. А я звярнуўся ізноў да гаспадара:

— Колькі каштавала вам пабудова такой аграмаднай аборы?

— Калі не лічыць уласнай працы, — ахвотна адказаў ён, — дык выдаў я нейкіх 800-900 тысяч злотых.

— І ўсё з уласных даходаў?

— Не, — паясняе ён. — Узяў паўмільёна злотых дзяржаўнай пазыкі, якую абавязаны аддаць на працягу 30 гадоў. Калі аднак паспяхова будзе разгортвацца ў мяне гадоўля, то абяцалі дараваць 35 працэнтаў гэтай сумы. Пазыку браў я таксама на пакупку сельскагаспадарчых машын.

Глыбока закараніўся гэты чалавек у сваю зямлю, і руплівай працай, а таксама і адкрытай душой на ўсё новае ён кожны дзень дакладае ўласную цаглiну да пабудовы нашага супольнага дабрабыту.

Такі гэты кавалер Залатога Крыжа Заслугі. Ён таксама ўзнагароджаны і Сярэбраным Крыжам Заслугі, і Залатым знакам „Заслужаны працаўнік сельскай гаспадаркі".

**В. Рудчык**

## Беларуская літаратура
Аляксандр Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЗМІТРОК БЯДУЛЯ — ЧАСТКА XXVIII

Роля Змітрука Бядулі ў беларускай нашаніўскай літаратуры ў ніякім выпадку не можа быць зведзена да літаратурных паўтораў, да наследавання іншых тагачасных пісьменнікаў. Кожная эпоха родзіць пэўныя густы, ідэі, моды. Паддаюцца ім не толькі звычайныя людзі, але і пісьменнікі. Магло б здавацца, што ў беларускай літаратуры перыяду „Нашай нівы" існавалі розныя тэндэнцыі; рамантызм, сентыменталізм, рэалізм, мадэрнізм, і таму кожны з пісьменнікаў мог свабодна выбіраць адзін з названых напрамкаў.

Было інакш. Па сутнасці ў перыяд „Нашай нівы" нівodзін з беларускіх пісьменнікаў не здолеў утрымаць сваю творчасць у рамках аднаго літаратурнага напрамку. Усе тагачасныя паэты і празаікі звярталіся да розных стыляў і розных літаратурных мод.

Чым гэта растлумачыць? Бадай тым, што беларуская літаратура не толькі ў адрозненні ад большасці заходнееўрапейскіх літаратур, але таксама ў супастаўленні з літаратурай польскай і рускай не мела ў сваім мінулым выразна акрэсленых літаратурных эпох: класіцызму, сентыменталізму, рамантызму, рэалізму, мадэрнізму. А вядома, што ў літаратурах суседзяў з гэтым напрамкам былі звязаны вялікія плеяды пісьменнікаў і што яны пакінулі багатую і прыгожую спадчыну.

Мабыць, беларускія пісьменнікі-нашаніўцы з зайздрасцю глядзелі на дасягненні суседніх літаратур. Многае іх у гэтых літаратурах вабіла і многае падабалася. І па сутнасці кожны з іх імкнуўся паспрабаваць свае сіл у стварэнні такіх твораў, якія б мелі часта супрацьпастаўныя рысы, якія належалі да розных літаратурных напрамкаў.

Усё сказанае аднолькава да формы твораў. Крыху па-другому выглядала справа тэматыкі твораў. У гэтым сэнсе было многа ў беларускіх пісьменнікаў аналагічнага. Па сутнасці ўсе яны ў большай ці меншай ступені прысвячалі свае творы сялянскаму жыццю.

Бядуля быў тыповым нашаніўцам. І таму ў яго творчасці адлюстраваліся ўсе характэрныя рысы і схільнасці паэзіі і прозы нашаніўскай пары. Не былі яму чужымі схільнасці сентыментальныя, рамантычныя, рэалістычныя, мадэрністычныя. Пры гэтым усім даволі цвёрда стаяў ён на грунце сялянскай рэчаіснасці. Гэта значыць, што сялянскую праблематыку апранаў у розную літаратурную вопратку.

Каштоўнасць Бядулевай творчасці заключаецца, між іншым, у тым, што сялянская жыццё не трактаваў ён татальна. Пісьменнік ведаў, што складаецца яно з многіх праяваў і фактаў, і таму стараўся ў пасобных творах займацца толькі выбранай праблемай.

Адной, з найпрыгажэйшых старонак творчасці Бядулі з'яўляецца паслядоўная абарона беларускіх дзяцей і беларускай жанчыны. Гэтыя, найбольш пакрыўджаныя члены старога беларускага грамадства сапраўды патрабавалі заступніцтва і абаронцаў. Адным з іх стаў Бядуля.

Пісьменнік цікавіўся літаральна усім: малым і вялікім, індывідуальным і агульным. Каб у гэтым пераканацца, хопіць перагартаць яго дарэвалюцыйныя вершы. Знойдзем сярод іх творы, у якіх ён гаворыць аб сваім дзяцінстве і яго вузкіх, індывідуальных праблемах, але сустрэнем і творы аб катаклізме вайны, які ўцягнуў у сваю арбіту грамадства некалькіх народаў.

У большасці вершаў і апавяданняў Бядулі адчуваем глыбокую эмацыянальнасць, узрушанасць, трывожнасць. Бядулевай творчасці не чужы выяўлены дыдактызм, які вынікаў з імкнення прывіць чытачу здольнасць кахаць і ненавідзець.

**В. Аляксееў**

# Адважны заяц Пыш

Хочаце верце, хочаце не, але я такое бачыў у лесе, што і сам спачатку не паверыў.

Жыў у лесе заяц са смешным імем Пыш. Вясной споўнілася яму тры гады. Быў ён, як на зайцавы гады, зусім дарослы. Школу для зайцаў скончыў, лясную грамату вывучыў. Умеў ён чытаць не літары, як вы, а сляды. Хто дзе прабег, хто дзе схаваўся — усё прачытае Пыш. І пісаць умеў сваю зайцаву грамату не горш кожнага іншага зайца, адразу ўсімі чатырма лапамі. Зайцам зразумела, а для лісы адны загадкі. Умеў лічыць да трох. Лічыць, стараецца, а сам пры гэтым так смешна варушыць губамі, быццам баіцца памыліцца.

У той дзень Пыш спацыраваў на ўскраіне лесу. Ежы ў лесе было шмат. Пыш выглядаў кругленькі, нават трохі цяжкаваты. Ён рабіў некалькі скокаў, потым спыняўся, наводзіў вушамі з боку ў бок, як самым сапраўдным лакатарам. Не пачуўшы нічога падазронага, зноў пачынаў скакаць. Раптам ён убачыў ля пянька нейкі прадмет. Пыш спыніўся, выцягнуў шыю і пачаў яго ўважліва разглядваць. З боку магло здавацца, што глядзіць ён зусім не на гэты прадмет, а ўбок. Не здзіўляйцеся, такі ў зайцаў няпісаны закон. Мабыць, за гэтую прывычку празвалі зайцаў касавокімі. Прадмет, які ён разглядаў, быў падобны на скручаную ў кальцо лісу. Ні галавы, ні хваста ў яго не было відаць. Пыш асцярожна наблізіўся. Пахла нечым нясмачным. Пыш лёгенька ўдарыў лапай па гладкай паверхні і ў наступны момант... толькі пяткі заблішчэлі, так ён уцякаў. Вядома, калі б Пыш раней бачыў звычайны дзіцячы барабан, дык яму не было б чаго так палохацца. Кожны хлопец ведае, што калі ўдарыць у барабан, дык пачуецца моцны гук. А Пыш усё ўцякаў, як усе зайцы, па вялікаму кругу. Яму страшна было нават аглянуцца, так напалохаў яго гул. І толькі тады, калі Пыш зноў наблізіўся да таго пянька і ўбачыў, што прадмет спакойна ляжыць на тым самым месцы, а не гоніцца за ім, спыніўся, перадыхнуў і агледзеўся. На сасне ён заўважыў сароку і адразу пасмутнеў. Няўжо яна бачыла, як ён уцякаў? Цяпер раскажа ўсім у лесе. Пыш зноў зрабіў некалькі скокаў вакол пянька, усім сваім выглядам паказваючы, што скача проста так. Сарока ўважліва наглядала за ім, як здавалася Пышу, з такім хітрым выражэннем, быццам хацела сказаць: „Мяне не набярэш, касавокі, бачыла, як ты перапалохаўся і ўцякаў“. Хаця Пыш не вылучаўся адвагай, усё ж яму было б вельмі непрыемна, калі б усе ў лесе даведаліся, як ён спалохаўся.

Трэба было б нешта прыдумаць зараз жа, бо сарока ўжо падрыгвала ад нецярплівасці хвастом, збіраючыся паляцець і разнесці па лесе гэтую навіну. Пыш падскочыў да барабана, зажмурыў вочы і так ударыў па ім лапамі, што сароку як ветрам здзьмула. Але справы! Вось як! І гэта зрабіў ён, Пыш! Не, барабан нельга тут пакідаць, і Пыш, абліваючыся потам, пацягнуў яго ў кусты, дзе было яго жыллё. Пыш яшчэ не ведаў, на што яму можа спатрэбіцца барабан, але адчуваў у ім велізарную сілу.

Прайшло некалькі самых звычайных дзён. Раніцы былі халодныя, Пыш закопваўся ў апаўшае лісцё, стараючыся сагрэцца. Ліса цяпер палявала не адна, а з цэлым сваім выводкам — падрослымі лісянятамі. Вучыла іх адшукоўваць заечыя месцы, ганяць зайцаў, рабіць на іх засады. Пышу таксама двойчы давялося ўцякаць ад іх. Паганяўшы яго трохі, лісяняты хутка змарыліся, і Пыш вяртаўся акружным шляхам на сваё месца.

Раніцай выпаў снег. На ім добра былі відаць заечыя сляды.

Пыш пачуў падазроны шолах. Адчыніўшы вочы, ён убачыў лісу са сваім выводкам так блізка, што было ўжо позна ўцякаць. Яны з усіх бакоў акружылі Пыша. Ён і не памятае, як ударыў у барабан. А ў наступнае імгненне ліса ўжо паказвала яму свой пушысты хвост, а лісяняты стараліся не адставаць ад яе.

Вестка аб гэтым абабегла ўвесь лес.

— Вы чулі, Пыш умее рабіць гром так, як гэта робяць людзі.

Самыя цікаўскія спяшаліся да Пыша, каб пагладзець самім на гэты цуд. Калі сабралася іх з дзесятак, Пыш ударыў у барабан, і зайцы, спалохаўшыся, разбегліся.

З таго часу Пыш стаў вядомы на ўвесь лес.

**С. Новік-Пяюн**

# Не пажар гарыць

*Не пажар гарыць на ўсходзе*
*За чупрынамі бяроз, —*
*Гэта сонейка ўзыходзіць*
*У залацістым бляску кос.*

*Стройна, згодна, ў дружным ладзе*
*Загрымеў птушыны хор,*
*Як з аркестрам на парадзе*
*Ён вітае сонца ўсход.*

*На бярэзіне зялёнай,*
*Пераліўна неяк так,*
*Нізкім і высокім тонам*
*Развясёла свішча шпак.*

*Пах чаромхі ап'яняе,*
*А зірнеш, — пад ёй уніз,*
*Белай зоркаю бліскае*
*Паміж зелені нарцыз.*

*А там далей незабудкі,*
*Поруч шоўкавай травы,*
*Нешта шэпчуць нам ціхутка*
*У светлы ранак веснавы.*

*Як чароўная паненка,*
*У садзе яблынька стаіць,*
*Бела-ружава сукенка,*
*У косах сонца зіхаціць.*

*То не скрыпка чула грае,*
*То не трэлі салаўя,*
*Не я песенькі спяваю, —*
*То пяе душа мая.*








Марта. Фота М. Шаховіча.

№ 21 (1084) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 21.V.1978 г.

## Пазнаёмімся

* ✲ *

БССР, 220092, г. Мінск-92, вул. Адоеўскага, 18, к. 2, кв. 74. Жана Навасад, вучаніца 4 класа.

* ✲ *

БССР, 220074, г. Мінск-74, вул. Адоеўскага, 41, кв. 19. Іна Буглак, вучаніца 4 класа.

* ✲ *

БССР, 220092, г. Мінск-92. вул. Адоеўскага, 20, к. 1, кв. 2. Лена Сокалава, вучаніца 4 класа.

* ✲ *

Вацлаў Харкевіч, Лешэк Кулеша і Бажэна Харкевіч, вучні восьмага класа, в. Адрынкі, пошта 17-210 Нараў, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

СССР, 344080, г. Ростов н/Д, ул. Российская, дом 44, кв. 21, Климентовой Людмиле. Дзяўчынка вучыцца ў чацвертым класе.

* ✲ *

СССР, Аз. ССР, 373208, г. Сумгаит, 8 м/он, д. 18/6, кв. 74. Кузьминой Ирине. Дзяўчынка вучыцца ў сёмым класе.

* ✲ *

СССР, Аз. ССР, 373208, г. Сумгаит, 8 м/он, д. 28 а, кв. 100. Гаджиевым Юре и Фарику. Хлопцы вучацца ў шостым класе.

* ✲ *

СССР, 370052, г. Баку, проспект 50 лет ВЛКСМ, дом 26, кв. 13. Кащеевой Марине.

* ✲ *

Гражына Бык, кол. Міхалова 14, пошта 16-050 Міхалова, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 17, кв. 49. Лена Міцкевіч, вучаніца шостага класа.

* ✲ *

БССР, 220092, г. Мінск-92, вул. Адоеўскага, 20, к. 1, кв. 23. Аксана Маслянка, вучаніца чацвертага класа.

* ✲ *

БССР, 220092, г. Мінск-92, вул. Адоеўскага, 18, к. 2 кв. 53. Оля Данілевіч, вучаніца чацвертага класа.

## АДГАДАНКА




*Прыглед зься добра да верхніх квадратаў, тых без нумараў. Звярні ўвагу на размешчаныя ў іх лініі і на тое, што адзін з квадратаў пусты. Ніжэй бачыш квадраты, панумараваныя ад 1 да 6. Які з гэтых квадратаў трэба змясціць у тым пустым без нумара?*

Адрас рэдакцыі: „Зорка“ 15-950 Białystok ul. Wesołowskiego 1

Лабузінскі піша працу аб прозвішчах, імёнах, мянушках жыхароў вёскі Клейнікі. Такіх прыкладаў можна было б прывесці болей. Др Я. Петручук з'яўляецца дасканалым выхаваўцам, любімым вучнямі педагогам, навуковыя зацікаўленні патрапіў умела аб'яднаць з выхаваннем маладога пакалення і актыўнай грамадскай дзейнасцю. Ён узнагароджаны Залатым Крыжам Заслугі, медалем XXX-годдзя ПНР, залатой адзнакай Саюза польскіх настаўнікаў, атрымаў узнагароду Беластоцкага куратара. Яго доктарская дысертацыя ўжо закваліфікавана да друку Беластоцкім навуковым таварыствам. Навуковы савет Філалагічнага факультэта Люблінскага універсітэта рэкамендуе яе Беластоцкаму ваяводу да спецыяльнай узнагароды за ўклад у навуковае даследаванне Беласточчыны. Працай др Я. Петручука зацікавілася таксама Акадэмія навук Беларускай ССР.

— Дагэтуляшнія свае даследаванні лічу ўсяго толькі пачаткам да вывучэння моўнага багацця нашага роднага Падляшша, — сказаў ён, калі ўжо падаваў мне руку на развітанне.

**Мікалай Гайдук**



# Будучы мастак

Гэта зусім яшчэ малады чалавек. Ён з 1957 года нараджэння. З дзяцінства любіць ён маляваць. Яго здольнасці асабліва моцна сталі праяўляцца ў 7 і 8 класах пачатковай школы. У мясцовым доме культуры атрымаў ён дапамогу і падтрымку. Затым у 1973 браў удзел у пленеры мастакоў-аматараў у Тыкаціне, у 1974 годзе — у такім ж пленеры ў Чорнай Беластоцкай, а ў 1976 годзе — у агульнапольскім пленеры ў Гоздніцы (Зялёнагурскае ваяводства).

Ідзе тут гутарка аб Андрэю Хальтэру з Міхалова. Цяпер ён служыць у войску ў Беластоку. Параўнальна часта бывае ён у Міхалове і заўсёды наведвае дом культуры, у якім ёсць пакой мастакоў.

Тэкст і фота **М. Хмялеўскага**

## Ці ведаеце, што...

...спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў у Беластоцкім ваяводстве карыстаюцца 2 600 трактарамі.

...на Беласточчыне дзейнічаюць 543 пункты скупкі малака.

...у нашай краіне існуе каля 45 000 бібліятэк.

...найбольшым горадам на свеце з'яўляецца Мексіка-Сіты з лікам 8 629 000 жыхароў і другім па колькасці насельніцтва з'яўляецца Нью-Йорк, у якім пражывае 7 481 000 чалавек без прыгарадаў.

...у Беластоцкім ваяводстве існуе звыш 1 900 спецыялістычных гаспадарак і каля 320 прадукцыйных калектываў. Толькі ў мінулым годзе выдадзена каля тысячы кніжачак спецыялістычных гаспадарак. У галіне арганізацыі новых форм гаспадарання сярод індывідуальных вяскоўцаў Беласточчына займае вядучае месца ў нашай краіне. Штораз больш гаспадароў — перш за ўсё маладых павышае свае веды — у 1975 годзе каля 3 тысяч, а ў 1977 годзе ўжо 7 тысяч. У мінулым годзе індывідуальныя гаспадары купілі больш двух тысяч гектараў зямлі з дзяржаўнага фонду зямлі, калі ў папярэднім годзе толькі 180 гектараў.

**(ця)**



# Рыбакоўскі „Крышталь"

Яшчэ, праўда, неатынкаваная і поўнасцю не пакрытая, але карысць ужо прыносіць. Мела быць пажарная раміза, але людзі ў Рыбаках, тых, што ў Міхалоўскай гміне, думаюць універсальна. Пакуль унясуць туды драбіны, сякеры, трубы ці іншыя пажарныя прылады, не пуставаць жа будынку! У краме, што стаіць па-суседску, вядома, піць нельга. Дома таксама жонка можа ў лоб ашарашыць, ну, а выпіць хочацца, хоць ты здохні. Дык і пачалося. На галаву не цячэ, прасторна, а як што, то і пераначаваць можна. Нездарма ж мясцовыя „Крышталем" назвалі. Ну, а як бы што, зразумела, жонка ці нейкія іншыя органы хатнята розыску, дык моў мы нічога, мы тут грамадска, тынкуем значыць. Універсальна думаюць у Рыбаках.

**Міхась Шаховіч**
Фота аўтара

## Людзі добрай работы

### ГАЛІНА ЛЕЎЧУК

Марыла яна, каб працаваць прадаўшчыцай. Яшчэ будучы дзяўчынкай і гуляючы ў пяску, уяўляла сабе, што стаіць за прылаўкам у краме, перад ёю многа-многа пакупнікоў, а яна важыць, пакуе, падае. Калі моцна нечага хацець, дык і дабіцца гэтага намнога лягчэй. Закончыўшы прафесіянальную гандлёвую школу ў Бельску Падляшскім, адразу ж пачала працаваць. І так прайшло амаль 8 год.

Працавала ў розных мясцовых крамах. І ўсюды, дзе не была, пакідала па сабе выразны след. Галіна Леўчук вельмі працавітая і актыўная. Праца для яе — не толькі прафесія, з якой утрымоўваецца, але і крыніца задавальнення ды радасці. Гэта яе другі дом. А яшчэ больш сэрца пачала ўкладаць, калі з 1 красавіка мінулага года бельскі ВСС паставіў яе кіраўніком новай агульнахарчавой крамы № 4, што знаходзіцца на вуліцы Высоцкага ў Бельску. Галіна Леўчук разам з іншымі сямю асобамі, што тут працуюць, з першых дзён пачала дбаць пра сваю краму з думкай, каб паставіць яе ў радзе найлепшых не толькі мясцовых, але і ваяводскіх. Пачалі прымаць удзел у конкурсах. Ужо ў 1977 годзе занялі першае месца сярод мясцовых крам. Потым удзельнічалі ў ваяводскім конкурсе, арганізаваным ПЦК і ВСС, на найчысцейшую краму, дзе занялі другое месца.

Апрача прадуктаў, увялі куточак з прамысловымі таварамі. Крама даволі вялікая, бо агульная паверхня аж 450 квадратных метраў, з чаго 215 — гэта паверхня канкрэтна гандлёвая. Месячны абарот дасягае 400 тысяч злотых. Ці гэта ўсё, што можа даць з сябе гэтая крама? Не. Ёсць магчымасць, каб абарот даходзіў нават да мільёна злотых, але, на жаль, крама знаходзіцца ў не надта зручным месцы. Цяжкі да яе даход. Аднак няма сумненняў у тым, што дзякуючы сваім уменням і здольнасцям Галіна Леўчук зможа, сумесна з мясцовым ВССам, пераадолець гэтыя цяжкасці.

**М. Шаховіч**

## Ф-А-Л-Ь-К-Л-О-Р

### ЖНІЎНАЯ




*Ой, у полі дуб, дуб, а пад дубам ёлка,*
*там дзеўчына, сама маладая, сама жыто жала,*
*там дзеўчына, сама маладая, сама жыто жала.*
*Ехаў казак з украіны: „Бог дапамаж, дзеўко!"*
*Дзеўка стала, стала, адказала, сэрдэньком назвала,*
*дзеўка стала, стала, адказала, сэрдэньком назвала.*
*— Будай твае слово па ўсім свеці стало,*
*як ты ж мэне, мэне маладого, сэрдэньком назвала,*
*як ты ж мэне, мэне маладого, сэрдэньком назвала.*
*Будай твае слово па ўсюм гарадочку.*
*Вышывала тая дзеўчыненька міламу сарочку,*
*вышывала тая дзеўчыненька міламу сарочку.*
*Шыла ж вана шыла, рознымі ніткамі,*
*коб пазнаці сваго міленькаго паміж парыньками,*
*коб пазнаці сваго міленькаго паміж парыньками.*

Ад Аляксандры Бонкард, 1909 года нараджэння, вёска Стачок каля Нараўкі, запісаў 6 сакавіка 1978 г. Мікалай Гайдук, нотная транскрыпцыя з магнітафоннай стужкі Людмілы Панько.

## Гмінныя навіны

### НОВАЕ ПРАДПРЫЕМСТВА Ў БЕЛЬСКУ

Яшчэ ў гэтым годзе закончыцца пабудова прадпрыемства трыкатажнай прамысловасці „Каро" ў Бельску. Будзе яно выпускаць канфекцыю агульнай вартасці за звыш 70 мільёнаў злотых у год. Ужо цяпер вядзецца падрыхтоўка жаночага рабочага калектыву. Дзяўчаты і маладыя жанчыны вучацца швейнаму майстэрству ў гарадоцкім філіяле сядлецкага прадпрыемства „Каро". На новым бельскім прадпрыемстве будзе працаваць 350 жанчын. Дзякуючы яму будзе вырашана праблема забеспячэння працай тутэйшых кабет.

### КГВ З ВОЙШАК ПЕРШЫНСТВУЕ

28 красавіка гэтага года ў Беластоцкім ваяводстве было падсумавана спаборніцтва гурткоў вясковых гаспадынь пад назвай „Больш агародніны, фруктаў і кветак!" за мінулы 1977 год. Удзельнічала ў ім 11,5 тыс. членаў з 756 КГВ. Галоўнай задачай яго было павелічэнне колькасці малавядомай агародніны. 226 гурткоў вырошчвала агародніну ў інспектах і 195 пад фоліяй. Значна павялічылася колькасць зялёнай цыбулі і салаты. У рамках конкурсу гаспадыні купілі 12 тысяч ружаў і 7,5 тыс. фруктовых дрэўцаў і кусцікаў чорнай і чырвонай парэчкі.

Сотні жанчын ахвотна хадзілі на сельскагаспадарчыя курсы і пасля заканчэння іх званне кваліфікаванага агародніка атрымалі 1 462 асобы.

Найлепшых поспехаў у спаборніцтве дабіўся КГВ у Войшках (гміна Юхновец), перад КГВ у Сіткаве (гміна Янаў), Манюшках (гміна Ясвілы), Разадранцы (гміна Саколка) і Махнатым (гміна Гайнаўка).

Індывідуальна першае месца заняла Меланія Свіслоцкая з Дабжынева, другое месца — Галена Карольчук з Кавалёўцаў (гміна Заблудаў) і Альфрэда Горчак з Заспіча (гміна Саколка).

Лаўрэатка Меланія Свіслоцкая вырошчвае значную колькасць агародніны ў цяпліцы. Мае яна пасведчанне кваліфікаванага агародніка.

Галена Карольчук вырошчвае раннюю агародніну і расаду пад фоліяй на плошчы звыш аднаго гектара і паўгектара рознай агародніны на адкрытым грунце, а таксама адзін гектар трускалак.

### МАЛАДЗЁЖНЫ ПАЧЫН

Дзяўчаты і юнакі, члены ЗСМП з Васількоўскай гміны актыўна ўключыліся ў грамадскі пачын пад назвай „Вясна чынаў — 78". Маладзёжная арганізацыя прадпрыемства шарсцяной прамысловасці ў Васількове дапамагла мясцоваму ГСу сабраць мінеральныя ўгнаенні ў мяшкі. На працягу двух дзён працавалі пры гэтым 43 асобы.

Члены ЗСМП з Сахоняў адрамантавалі ўхабісты адрэзак жвіроўкі з Сахоняў у напрамку Аўгустоўска-Беластоцкай шашы. У гэтым пачыне ўдзельнічала 60 чалавек.

27 дзяўчат і юнакоў з Рыбнікаў пасадзіла 3 га лесу ў лясніцтве Пшэвалянка.

ЗСМПоўцы і БГКТоўцы з Дамброўкаў адрамантавалі два памяшканні ў мясцовым школьным будынку. У іх зараз адбываюцца заняткі членаў гурткоў: юных жывапісцаў, песеннага, музычнага і фотааматараў. На пачын прыйшло 50 асоб. Выкладзіну на падлогу, сталы і крэслы даў начальнік гміны. Цяпер у святліцы моладзь і дарослыя арганізуюць культурныя мерапрыемствы.

### ДЗЕ НАЙБОЛЬШ ГАДУЮЦЬ КУРАНЯТ

У мінулым годзе найбольш куранят гадавалі гурткі вясковых гаспадынь у гмінах: Хорашч, Дабжынева і Драгічын. Найлепшых поспехаў у гадоўлі дабіліся гаспадыні з вёсак: Клепачы, Рушчаны, Панькі і Міньцы (Харашчанская гміна), з Кляшчэляў, Дабжынева, Мінчэва (Драгічынская гміна), Толвіна (Сямяціцкая гміна) і Залукаў (Гарадоцкая гміна), КГВ у гэтых мясцовасцях гадавалі ў сярэднім да двух тысяч куранят, але былі і такія гурткі, якія супольна выгадавалі па тры і чатыры тысячы куранят. Такіх найбольш было ў харашчанскай акрузе.

**Я. Целушэцкі**

## Alicja Majewska



**ФОТА ПА ЗАКАЗУ** — **Заказвалі**

Эва Шабэлян з Семяноўкі і хлопцы з Тапчыкал.

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, я замужняя, маю двое дзяцей, ужо не маленькія — аднаму пяць, а другому восем гадоў. Муж мой спакойны, разважлівы, памагае мне ў хатняй працы. Я не працую, а калі задумалася мне пайсці на работу, муж адмаўляў, гаварыў, што цяжка мне будзе, работы жа ж у хаце хапае. А яшчэ і нервовая, сваруся за кожную дробязь. Праз гэта і атмасфера ў нашай хаце не найлепшая. Суседзі зайздросцяць мне такога мужа. У вочы кажуць, што я кепская, а ён добры. Але вось гэты добры, чуллівы, кахаючы жонку, як усё мне паўтарае, знайшоў сабе іншую. Людзі мне даказалі. Я ўжо і наглядала крыху, але ці ж якраз трапіш? Муж не прызнаецца, толькі адно сказаў, што бывае, што з працы вяртаецца разам з сябрамі або сяброўкамі, якія па дарозе жывуць. І больш нічога з яго не выдушыла. Не адзываюся да яго. Нервы зусім растрапала. Спакою не маю. Як жыць далей, парай, Сэрцайка!

Ніна з Б.

Адно магу сказаць — маеш добрага мужа, толькі не шануеш яго. Людзі, як сама гаворыш, зайздросцяць табе такога мужа, вось і хочуць вас пасварыць, непаладкаў у хаце вашай нарабіць. А ты ім адразу верыш, ды пекла ў хаце робіш. Дом павінен быць месцам спакою, адпачынку. А што ў цябе? Сур'ёзна задумайся ды вазьміся за самавыхаванне. Не чапляйся абы за што, не сварыся, бо калі ў далейшым так будзеш паступаць, дык можа і дайсці да таго, што муж пачне шукаць спакою па-за домам.

**Сэрцайка**

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: В. пражываў на заходніх землях, а на яго гаспадарцы працаваў А. Вярнуўшыся з захаду ў 1964 годзе, В. прадаў гаспадарку Д. прыватнай умовай. А. у час карыстання з гаспадаркі адрамантаваў дом і паставіў гаспадарчы будынак значнай вартасці. Цяпер ён займае частку дома, а Д. патрабуе, каб ён звольніў памяшканне. Д. атрымаў акт уласнасці ад адміністрацыйных улад і выказвае пагляд, што ён заплаціў за гаспадарку і не мае ніякіх абавязкаў у адносінах да А. і не намеран плаціць яму за гаспадарчы будынак і рамонт дома. Тым часам В. выехаў нямаведама куды і няма надзеі на тое, што ад яго можна атрымаць заплату. Што мае рабіць А.?

АДКАЗ: Незалежна ад таго, ці хто купіў гаспадарку натарыяльнай умовай ці атрымаў на аснове закону аб урэгуляванні ўласнасці сельскіх гаспадарак актам уласнасці, не можа ён адмовіцца ад даўту, які абцяжвае гаспадарку. Той, хто набыў уласнасць гаспадаркі, адказны за гэткі доўг салідарна з тым, хто яму гаспадарку прадаў. З гэтага вынікае, што А. можа патрабаваць звароту сваіх выдаткаў на будынкі як ад В., так і ад Д., або ад іх абодвух. Выбар належыць да А. Калі б Д. патрабаваў праз суд прымусовага высялення А., гэты апошні можа патрабаваць, каб суд узалежніў прымусовае высяленне ад раўначаснай зарплаты яго належнасцей. Пасля заплаты Д. можа патрабаваць разлічэння ад В.

Астроне, у маім сямейным жыцці мае вырашыцца вельмі важная справа. Можа яна прыняць для мяне як пазітыўны, так і негатыўны абарот. Адным словам, чакаю павышэння рэнты. І вось прыснілася мне, што ў нашу вёску з напрамку Беластока ляцяць галубы. Прыляцелі яны і селі на наш свіран са збожжам. Што б гэты сон мог абазначаць? Ці можна спадзявацца добрых вестак?

Анна

Мне, Астронку, прыснілася, што ў маёй хаце завяліся мурашкі. Быццам лазяць яны па кухні цэлымі грамадкамі. Дзіўны сон, праўда? Я іх збіраю поўнымі прыгаршнямі. Што гэта такое?

Бася

## ВЕР-НЕ ВЕР

Дарагі Астроне! Прыснілася мне, быццам я стаю на вуліцы ў кофтачцы без спадніцы, за мною стаіць мая суседка, а за ёю мая сястрычка і мы ўсе аднолькава апрануты, гэта значыць без спадніц. Што гэты сон можа прадвяшчаць?

Соня з Белавежы

**Анна!** Твой сон абазначае, што атрымаеш ты нейкую супакойваючую, бо галубы ж прыляцелі, вестку з Беластока, якая прынясе табе нейкі прыбытак у гаспадарку (галубы ж селі на свіран са збожжам).

**Бася!** Мурашкі абазначаюць поспех і сямейныя радасці.

**Соня** з Белавежы! Твой сон прадвяшчае нейкі ўрон. Датычыць ён будзе не толькі цябе, але і тваіх блізкіх.

**Астрон**

## Этнаграфічнае акенца



*Узор даўнейшага будаўніцтва ў Мілейчыцах.* *Фота М. Шаховіча.*

## Куток практычных ведаў

**ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ**

# ВЕСНАВЫЯ СУПЫ

### СУП СА ШЧАЎЯ

Узяць кавалак капчонкі ці свежых робрышак, цыбуліну, жменю шчаўя, 2 шклянкі малака, паўшклянкі смятаны, 2 лыжкі мукі, літр вады, соль, зяляніну, 4 яечкі.

Капчонку, робрышкі ці іншае мяса зварыць у вадзе, дадаючы цыбулю. Маладыя лісточкі шчаўя дакладна памыць, абарваць хвосцікі і пасячы шчаўе на дошчачцы. Мяккае мяса выняць, аддзяліць яго ад касцей, дробна парэзаць. Малако размяшаць са смятанай і мукой, заправіць суп, закіпяціць і дадаць шчаўе. Суп са шчаўем другі раз закіпяціць, дадаць па смаку солі і цукру. Падаваць гэты суп з асобна зваранай бульбай і крутымі яечкамі або грэнкамі. Можна яго есці таксама з ячменнай кашай, клёцкамі ці самаробным макаронам.

### СУП З КІСЛАГА МАЛАКА

Гэта будзе рэцэпт нештодзённы, але даволі цікавы. Трэба ўзяць 5-6 штук бульбін сярэдняй велічыні, 1 літр вады, 1 літр кіслага малака, паўшклянкі смятаны, 2 лыжкі мукі, 4 яечкі, костку булёну з курацінны, соль, кмен ці сухое насенне ўкропу, зяляніну.

Абабраць бульбу, нарэзаць яе косткай, палажыць у кіпень, дадаць сухое насенне ўкропу ці кмену і зварыць. Кіслае малако размяшаць з мукой і смятанай, уліць у мяккую бульбу, закіпяціць. Суп заправіць па смаку, дадаць зяляніну. Звараныя крутыя яечкі парэзаць на чвэрткі і разлажыць на талеркі, пасля чаго разліць суп і ўсыпаць зяляніны. Падаваць гэты суп з чорным хлебам або грэнкамі з тэтага хлеба.

Замест кіслага малака можна выкарыстаць маслянку, а суп будзе таксама смачны і здаровы.

На заканчэнне хочацца зрабіць некалькі ўваг для маладых гаспадынь. Вядома, што нават найбольш смачная і любімая страва перастане смакаваць дамачадцам, калі яе падаюць занадта часта. Вядома таксама і тое, што з таго самага прадукта можна „вычараваць" розныя стравы, якія могуць заахвоціць да яды, але таксама і адпіхнуць ад яе. Таму менавіта раім выкарыстаць нашы сённяшнія рэцэпты: стравы і цікавыя, і смачныя.

**Гаспадыня**

# МАКУЛАТУРА каштоўная, як ЛЕС

**А. ВОІНАЎ**




**ДАКУМЕНТАЛЬНАЯ АПОВЕСЦЬ**

Цёплы сакавіцкі вецер пагойдвае чорныя вузлаватыя галінкі платана, і здаецца, няма на свеце больш ціхай вуліцы, чым тая, на якой жывуць дзяўчаты. Вось з варот насупраць выбеглі хлопчыкі і, павярнуўшы, кудысьці пабеглі. І, як заўсёды, на венскім крэсле, пастаўленым на тратуар побач з пад'ездам, сядзіць старая ў такім жа, як яна сама, аблезлым футры і сумна разглядае прахожых. Яна ведае ўсё, што робіцца ў доме. Ад яе вострых вачэй не схаваецца нават кошка, якая прамільгнула на даху за комінам.

Для Надзі гэты дзень не з самых лёгкіх. Яна доўга хадзіла па горадзе, стараючыся даведацца аб навінах.

У царкве ў час службы хтосьці кінуў лістоўкі, у іх былі праклёны Гітлеру і гаварылася аб тым, што ў Адэсу хутка вернуцца чырвоныя. Хто кінуў — так і не даведаліся. А на Вялікай Арнауцкай раніцай была страляніна, забілі нейкага партызана, у трамваі гаварылі, што з катакомбаў выйшаў...

Нарэшце стомленыя ногі прывялі яе дамоў.

Але як толькі яна падышла да варот, яе адразу ж паклікала старая.

— Да вас прыходзіла сюды пігаліца. Дзяўчынка гадоў чатырнаццаці. Пра цябе з Ленай пыталася!

— Хто такая? — здзівілася Надзя.

— Маленькая і хударлявая.

Губляючыся ў здагадках, Надзя вырашыла чакаць ля варот. Калі дзяўчынка прыйдзе зноў, яна пагутарыць з ёю на двары. Асцярожнасць перш за ўсё.

— Ідзі дамоў, — сказала старая, — а я падзяжуру. Калі зноў прыйдзе, дык пашлю.

Але Надзя працягвала размаўляць са старой, якая ўзрадавалася, што ў яе з'явілася субяседніца. Калі з варот выходзілі эсэсаўцы, нагружаная скруткамі старая імгненна змаўкала, праводзячы іх хітрым позіркам выцвілых вачэй.

Не выказваючы трывогі, Надзя ўважліва ўглядалася ў кожнага прахожага. Калі ж зноў з'явіцца дзяўчынка? І ўсё ж Надзя ўбачыла толькі тады, калі яна раптоўна з'явілася з-за бліжэйшага дрэва. Сапраўды, зусім маленькая, хударлявая, у футравай шапачцы з вушамі, танклявыя ножкі ў чаравіках, шэрае кароткае паліто.

— Вось яна! — сказала старая. — Яна пра цябе і пыталася.

— Каго табе? — асцярожна спытала Надзя, разглядаючы сур'ёзны і зусім яшчэ дзіцячы твар дзяўчынкі.

— Мне патрэбна Лена Бутэнка або Надзя Зайцава, — сказала дзяўчынка.

— Пойдзем са мной, — сказала Надзя, ледзь стрымліваючы радасць.

Калі дзяўчынка паела, напілася гарачага чаю і адагрэлася пасля доўгага блукання па горадзе, Надзя ўжо ведала, што яе завуць Кацяй Адамчук, што ёй васемнаццаць гадоў, хоць гэтага ўзросту ёй ніхто не дае, што ўчора яна прызямлілася з парашутам, у раёне вёскі Гнілякова і каля яе ў яме закапала доўгачаканыя батарэі, запасныя часткі да рацыі і пятнаццаць тысяч нямецкіх марак. Цэлае багацце!..

І вось усё паўтаралася зноў. Лена і Надзя, як гэта ўжо было не раз, зноў сядзелі і ламалі галовы над тым, як пранесці праз многія кардоны небяспечны груз. Але цяпер яны былі ўжо не адны, з імі былі Міша і Каця.

Міша і Лена дасталі пропускі на права выхаду з Адэсы і доўга хадзілі з Кацяй па дарогах у пошуках запаветнай ямы.

Усе палі і равы вакол Гнілякова здаваліся Каці аднолькавымі. Яна ніяк не магла аднавіць у памяці дакладныя прыкметы таго месца, дзе закапан груз.

Каб пазбегнуць непрыемнасцей на рабоце, Мішу давялося вярнуцца ў Адэсу. Праз дзень пайшла і Лена, ёй таксама нельга надоўга знікнуць з порта. Маленькая Каця засталася адна...

Яшчэ доўга хадзіла яна па сцюдзёных, заснежаных палях, пакуль раптам не заўважыла лямку свайго парашута, якая тырчэла з-пад змецёнага ветрам снегу.

Згінаючыся пад цяжарам, яна выйшла на дарогу і шмат гадзін ішла па ёй, без усякай надзеі на тое, што хтонебудзь ёй дапаможа. Калі яе пачала даганяць фурманка, на якой ехалі двое старых людзей, яна нават не азірнулася. Але стары, які трымаў лейцы, спыніў каня і прапанаваў дзяўчынцы падвезці яе.

Старыя прывезлі Кацю да сябе дамоў, і, жадаючы ёй дапамагчы, гаспадар зняў з калёс паклажу. Па яе вазе ён зразумеў, што ў мяшку, акрамя бульбы, ёсць яшчэ штосьці, і, выбраўшы момант, калі Каця з ручніком у руках вярнулася ў пакой, ён сказаў:

— Мы разумеем, дачка, што ты парашутыстка, і хочам дапамагчы табе. Самой табе ў Адэсу не прайсці. Мы цябе адвязём на конях.

*(Працяг будзе)*

# ТРЫБУНА чытачоў

### СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЯ СУПОЛКА Ў НАВАСАДАХ

Спулдзельня сельскагаспадарчых гурткоў у Гайнаўцы была створана з пачаткам 1974 года, на аснове 29 сельскагаспадарчых гурткоў, якія існавалі на тэрыторыі Гайнаўскай і Белавежскай гмінаў. Цяпер да спулдзельні прыналежаць: прадпрыемствы механізацыйных паслуг у Чыжах, Махнатым, Арэшкаве і калектыўнае гаспадарства ў Навасадах. Дырэктарам СКР з'яўляецца вядомы грамадска-палітычны дзеяч і дасканалы арганізатар Здзіслаў Мінякоўскі.

Ад моманту стварэння СКР у Гайнаўцы назіраем інтэнсіўнае развіццё суполкі ў Навасадах. Суполка ў гэтай вёсцы мае цяпер 640 га зямлі. У структуры пасеваў збожжа складае 60%. Многа сеюць яны матыльковых раслін — на насенне і зялёны корм. Штораз больш садзяць бульбы.

Навасады маюць добрыя кадры трактарыстаў, камбайнёраў і механікаў, а перадавыя з іх: Пётр Крутэль, Анаталь Сіняковіч, Мікалай Давідзюк с. Ш., Анатоль Сегень, Сяргей Леўчук, Лявон Паскробка, Мікалай Завадскі, Юрка Лапінскі, Аляксандр Пташынскі.

Павялічваецца таксама колькасць сучасных машын. Яны маюць: 30 трактараў, 5 камбайнаў тыпу „Бізон“, 2 бульбяныя камбайны, 16 снопавязалак, 12 трактарных капачак, 2 парніковыя калумны, 3 прэсы для саломы і шмат іншых машын.

Развіваецца не толькі раслінная прадукцыя, але таксама і прадукцыя мяса. ЗГР мае тры хлеўні, дзе за адзін раз гадуецца 1100 кормнікаў. У філіяле гаспадарства ў Дубінах будуюць новую хлеўню з чыгуначных падкладаў на 2000 штук кормнікаў. У 1977 годзе ЗГР Навасады ад гаспадароў-кааперантаў купіў 2682 штукі вархлякоў і выпрадукаваў 250 тон мяса.

Нагляд над выкормліваннем свіней вядзе старэйшы спецыяліст Міхал Прычыніч, які таворыць, што поспех у гадоўлі кормнікаў залежыць ад трох умоў: добрае парасё, добрае памяшканне і рацыянальнае кармленне. На пахвалу за сваю працу ў гадоўлі свіней заслугоўваюць Зінаіда Антанюк і Ірэна Шварц.

У 1977 годзе чысты даход у ЗГР Навасады дасягнуў 1.857 тысяч злотых.

**ПЭС**

### ПРА МАКУЛАТУРУ

Паводле дадзеных, якія я атрымаў на дзяржаўным прадпрыемстве ў Бельску, збор макулатуры і злому сярод школьнай моладзі за 1977 год прадстаўляецца наогул добра. Найбольш макулатуры за год сабралі і здалі наступныя школы горада Бельска: эканамічная школа — 4.743 кг, прафесіянальная школа — 4.168 кг і пачатковая школа № 3 (беларуская) — 2.862 кг. Найбольш злому сабраў калектыў сельскагаспадарчых школ у Бельску — 2700 кг.

Сярод вясковых школ найбольш злому сабрала школа ў Райску — 1.800 кг, потым школа ў Пасынках — 1600 кг і школа ў Плёсках 1000 кг.

**М. Матвеюк**

## ПАРНАСік
ЧЫТАЛЬНІЦКАЯ ЛІТСУПОЛКА НА НЕГАРАНТАВАНЫХ ПАЯХ

### ВЯСНА

*Вось прыйшла да нас вясна,*
*Весяло глянула,*
*І старых, і малых*
*З хаты пацягнула.*

*Прыляцелі пташкі*
*З далёкага краю,*
*Міла нам паслухаць,*
*Як яны спяваюць.*

*Траўка вырасла з зямлі,*
*У гору спаглядае,*
*Каб прыгрэла лепей сонца,*
*Ўсё так ажыдае.*

*Ўсё вясною ажывае,*
*Хоча весяліцца.*
*Не забыць трэба і нам*
*Вясне пакланіцца.*

*Парабемо мы парадкі*
*Каля сваёй хаты,*
*Добра будзе выглядала,*
*Хоць мы й не багаты.*

**Н. В., Ціванюкі**

## Веснавыя парадкі

Вясной кожны горад, як добры гаспадар, наводзіць у сябе парадкі. Прадпрыемства камунальнай гаспадаркі не паспявае ў гэту пару само спраўна ўсё зрабіць. Таму начальнік горада Гайнаўкі звярнуўся да ўсіх устаноў, каб кожная з іх ачысціла прылеглыя траўнікі і тратуары.

Першымі ў горадзе выйшлі на вуліцы 1 Мая, Варынскага і Пралетарыяцкую служачыя Гайнаўскага прадпрыемства драўніннай прамысловасці. Замест пяром, папрацавалі з мятлой, граблямі і лапатамі. Уласнымі грузавікамі прадпрыемства адразу і ўсё смецце павывозіла.

У гэтай акцыі чысціні вакол сябе прыняло ўдзел 200 асоб. Працавалі тры гадзіны на чале з дырэктарам, доктарам тэхнічных навук Уладзімірам Паскробкам, які даваў добры прыклад цяжкай фізічнай працы. Працу выканалі на пяцёрку. За іх прыкладам павінны пайсці ўсе ўстановы горада.

А найважнейшае ў гэтым тое, што на чыстку вуліц не забіраюць рабочых ад станка, а толькі ўжэндасаў і што робяць яны для горада добрую работу.

**Вірскі**

## Новыя паслугі на вёсцы

Ужо паўгода ў Дубічах Царкоўных працуе жаночая цырульня. Вядзе яе Яўгенія Максімчук родам з Ягаднікаў. Цырульня знаходзіцца пакуль што ў прыватным памяшканні, але тут вельмі ўтульна і прыгожа. Яўгенія Максімчук да ўсіх сваіх кліентаў адносіцца ветліва і спраўна выконвае сваю работу. А работы мае нямала. Выконвае прычоскі, стрыжкі, фарбаванне валос, розныя андуляцыі.

Хаця Яўгенія — жаночы цырульнік, аднак умее і мужчын падстрыгчы. Яе цырульня адкрыта ад 8 гадзіны да 16. Хутка ў гэтым жа памяшканні будзе адкрыты пункт прыёму бялізны ў сцірду. Пункт гэты павядзе таксама Яўгенія Максімчук. Брудную бялізну будзе яна адсылаць у гайнаўскую пральню і адтуль прывозіць чыстую. Не трэба гаварыць, як задаволены жыхары Дубіч і бліжэйшых вёсак з развіцця такіх паслуг на вёсцы.

**М. Панфілюк**

## Весткі з Цялушак

Добра гаспадарыць вёска Цялушкі ў Заблудаўскай гміне. На 360 гектарах зямлі V і VI класаў 63 гаспадары вёскі развіваюць сельскую гаспадарку. Вёска трымае каля 300 штук быдла, 500-600 свіней, 75 коней (маюць таксама гаспадары і ўласныя трактары), каля 300 авечак па 5-6 штук на гаспадарцы.

У 1977 годзе здалі дзяржаве каля 300 свіней і 50 штук быдла. У студзені 1978 года здалі 35 кормнікаў і 8 штук быдла. Вёска вырошчвае на сваіх палях вельмі добрыя ўраджаі. Вядомая цялушкаўская бульба, трускалкі і агуркі. Хаты абсталяваны багата і прыгожа. Вёска развіваецца. **М. С.**

## Прыклад Гайнаўкі

Задумаў я зрабіць у гэтым годзе новы тынк на сваіх будынках, палажыць каля хаты тратуары, атынкаваць падмурак у хаце і, такім чынам, прыняць удзел у конкурсе нашага горада „Майстар гаспадарнасці“.

Пайшоў я на вуліцу Гурную, дзе знаходзяцца склады ВЗГС, купіў паўтоны вапны і паўтоны цэменту. І так стаю і бядую, як усё гэта завезці дадому. Фурман, напэўна, возьме 150 злотых, ды і нідзе яго не відаць.

І вось падыходзіць да мяне Янка Васілюк, — працаўнік ВЗГС і пытаецца, у чым бяда. Кажу, што няма чым завезці тавар дахаты. А ён мне і тлумачыць: аддзел ВЗГС у Гайнаўцы ўвёў новую паслугу насельніцтву горада. Уласным транспартам давозіць купленым тавар за невысокую плату (80 зл. за тону) на любую вуліцу горада.

Скарыстаў я з радасцю з гэтай паслугі, бо і нядорага, і хутка. Дзякаваў і кіраўніку транспарту Янку Русіловічу, і шафёру Дэм'янюку. А пры нагодзе жыхарам Гайнаўкі раю карыстацца з транспарту ВЗГС.

**Э. Вайсковіч**

Запіскі натураліста

## На гліняным выкапе

Ясныя ўспаміны... Быў сонечны жнівеньскі дзень. Летась жніво спазнілася. Выйшаў я, каб паназіраць, што робіцца на полі. Затрымаўся ў невялікім гліняным выкапе, што пры шасейнай дарозе з Бельска ў Праневічы. Заглянуў пад берагі выкапа і тут я дагледзеў, што ўся зямля ўсюды перапоўнена жыццём. У шчылінах і норах таксама ідзе жыццё.

Назіраючы адну з большых нораў, я ўбачыў там вялікую рапуху. Сядзела яна там, схаваўшыся ад гарачага сухога паветра і сонца, і глядзела на мяне сваімі выпуклымі вачыма, як бы ўбачыла ва мне свайго прыяцеля. І на самай справе, яна не памылілася. Я вельмі люблю акружаючую мяне прыроду. Шкада мне стала рапухі. Сама сядзіць і не варушыцца, а можа яна і галодная?

Недалёка збіралі камбайнам ячмень і я прынёс ад гаспадара каўбаску, парэзаную на тонкія ломцікі, і даў рапусе есці. Рапушка іх не брала. Тады я ўзяў кусочак паперы і прынёс на ёй некалькі злоўленых лятаючых мушак. І ўпусціў іх у норку. І тады рапуха высунула свой доўгі язычок і з'ела. Гэтак паўтарыў я яшчэ два разы і назіраў тую ж самую карціну.

Адыходзячы ад гліністага выкапу, я яшчэ раз заглянуў у нару. Рапуха сядзела зноў без руху з шырока адкрытымі вачыма. Якія нервы трэба мець, каб пераносіць яе самотнасць!

Калі набліжаецца зіма, рапуха заўчасу заграбаецца ў зямлю, каб там, у стане поўнага заміранння, перажыць зіму і абудзіцца са сну вясною. Тады зноў яна бярэцца за ахову нашых садоў і агародаў, з'ядаючы полчышчы шкодных насякомых.

Шануйма нашу рапуху, яна вельмі добрае і мілае стварэнне, якое прыносіць нам многа карысці.

**Інж. Б. Ф. Рудкоўскі**



## Вакол нас

Там, дзе няма святліцы, людзі нервуюцца. Але гляньма вакол нас. Што дзеецца са святліцамі ў некаторых мясцовасцях? Яны служаць толькі на сходы, вясельныя забавы і на танцы, пасля якіх аж да наступнай забавы ляжыць смецце. У святліцах няма часта шыб і клямак пры дзвярах.

Даказваць людзям, што гэтак быць не павінна, нават смешна. Людзі ж самі разумеюць. Адукаваныя. Або вучацца ў школах, а на свята і вяселле прыязджаюць у вёску і ідуць у святліцу. Чаму ж так дрэнна паводзяць сябе?

Ды ці толькі ў святліцах так бывае? Гляньце на прыпынкі ПКС, якія былі набудаваны для іншых мэт! І так думае чалавек: як можна нішчыць тое, што табе самому служыць?..

**Восень**

## Хто направіць?

Неяк будучы ў Трасцянцы, я даведаўся, што ўжо чатыры гады ва ўрочышчы „Даліны“ сапсаваны дрэнажныя руры і ніхто не хоча іх направіць. Вясной ці ўвосень, як пойдуць дажджы, то ў поле не ўлезеш. А плаціць кожны год трэба.

Варта, каб гэтым адпаведныя людзі зацікавіліся.

**М. Лук'янюк**

## Нешта трэба зрабіць

Жвіраваная дарога, якая вядзе з Патокі ў Міхалова, так сапсавана, што цяжка праехаць. А ўжо ад Казімерова да Міхалова брук так паложаны, што адно кола едзе па бруку, а другое з'язджае на пабочча — цягне воз і ён можа перакуліцца. Здаецца, што не павінны людзі спакойна глядзець на гэту дарогу. І солтысы і гміна гэтай справай павінны заняцца.

**М. Лук'янюк**

## АДГАЛОСКІ

### ЦІ Ж ГЭТА НЕ БАЛАГАН?

Ад апошняй маёй публікацыі на тэму скупкі парожніх бутэлек у кузаўскай краме прайшло некалькі месяцаў. І зноў быў адказ дырэктара Ваяводскага саюза сельскагаспадарчых кааператываў у Беластоку Г. Пракопчыка, у якім чытаем: „... паведамляем, што мы зноў звярталіся ў ГС Кляшчэлі ў справе скупкі парожніх бутэлек кузаўскай прадаўшчыцай. У адказе ГС Кляшчэлі паведаміў нам пісьмом ад 28 XII 1977 г., што кузаўская прадаўшчыца абавязана купляць парожнія бутэлькі, нягледзячы на запасы“. Гэта адказ. А якая рэчаіснасць?

„Мы ўжо вядзем скупку бутэлек, — гаворыць прадаўшчыца А. Сцепанюк, — але пакуль што бярэм толькі бутэлькі ад віна. На іншыя скрынак няма. І толькі перад кожнай пастаўкай тавараў“.

Ці ж гэта вырашэнне справы? Здаецца час пакончыць з гульнёй у жмуркі. У кожнай краме павінна быць скупка парожніх бутэлек, заўсёды і ўсіх. Калі бяруць па тры злотых за бутэлькі, дык няхай жа будзе магчымасць звярнуць іх. Гэта не тлумачэнне, што не хапае скрынак. Бо тут гэта віна саміх гандлёўцаў. Кляшчэлеўскі ГС павінен гэту справу нарэшце вырашыць і ліквідаваць балаган. А што балаган выступае, сведчыць і той факт, што на былым пункце скупкі ў Чаромсе ляжала неадвезеных парожніх бутэлек на суму каля 100 тысяч зл. І ніхто не паклапаціўся ў час парожнія скрынкі даставіць і забраць бутэлькі.

Спадзяюся, што неўзабаве пачуем ужо апошні і рашучы адказ ваяводскіх гандлёвых улад аб скупцы парожніх бутэлек, і няхай ён ужо сапраўды канчаткова вырашыць справу.

**Ул. Сідарук**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да публікацыі „ДА ЧАГО ДАДАТКІ?“, „Ніва“ № 15/1154 ад 9 красавіка 1978 года.**

**Адказвае: GMINNA SPÓŁDZIELNIA „SAMOPOMOC CHŁOPSKA” W KRYNKACH.**

W odpowiedzi na notatkę prasową pt. „Do czego dodatki?” informujemy, że w celu ochrony ziarna siewnego przed chorobami i szkodnikami, a tym samym zwiększenia wydajności zboża, od dawna stosuje się zaprawianie ziarna zbóż przeznaczonych do siewu zaprawą nasienną. Mimo oczywistego pozytywnego znaczenia zaprawy nasiennej w zwiększeniu plonów, nie wszyscy rolnicy chcą stosować ten środek.

Urząd Gminy w Szudziałowie sporządził imienne wykazy rolników i wyliczył każdemu potrzebne ilości zaprawy nasiennej. Na podstawie tych wykazów Gminna Spółdzielnia prowadzi sprzedaż zaprawy. Ponieważ zdajemy sobie sprawę ze znaczenia czasu rolnika, by nie musiał on celowo przyjeżdżać tylko po zakup zaprawy, dlatego też przy okazji pobytu rolnika w magazynie i przy dokonywaniu przez niego zakupu sprzedawana jest zaprawa w minimalnej ilości, określonej przez Urząd Gminy.

Autor notatki, który prowadzi gospodarstwo rolne, powinien znać i doceniać znaczenie zaprawy nasiennej. Rezygnacja z kupna tego środka świadczy raczej o złej woli, gdyż przez to unika on postępu wyższej produkcji w swoim gospodarstwie.

Gminny plan zaprawiania zbóż wykonano zaledwie w 53 proc.

**Naczelnik Gminy**
**Czesław Biełkał**

**Wiceprezes**
**d/s Obrotu Rolnego**
**Zygmunt Stankiewicz**

**Да публікацыі „БЫЛО Б УСЁ ДОБРА, АЛЕ...“, „Ніва“ № 9/1148 ад 26 лютага 1978 года.**

**Адказвае: ZAKŁADY ENERGETYCZNE OKRĘGU CENTRALNEGO ZAKŁAD ENERGETYCZNY BIAŁYSTOK REJON BIELSK PODLASKI.**

W odpowiedzi na krytyczną notatkę prasową, zamieszczoną w tygodniu „Niwa” z dnia 26 lutego 1978 roku, w sprawie złego funkcjonowania oświetlenia ulicznego we wsi Iwanki — uprzejmie informujemy, iż uzupełniliśmy go w dniu 22 kwietnia bieżącego roku.

Nie mogliśmy dokonać naprawy we wcześniejszym terminie, ponieważ w tym celu niezbędny był podnośnik mechaniczny PMH, a nasz jest uszkodzony od drugiej połowy marca tego roku. W dniu 22.04.1978 r. naprawy dokonaliśmy przy pomocy podnośnika wypożyczonego.

**Kierownik Rejonu Energetycznego**
**Bielsk Podlaski**
**inż. Tadeusz Wilgat**

„Niwa” — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch”. Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruch”, urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

